трэба будаваць новы лад без капіталістых і абшарнікаў, як трэба скідаць абшарнікаў і капіталістых. Гэтыя дэлегацыі ўпісваюць новую старонку ў гісторыю ўплыву расійскае рэволюцыі на сусьветны рабочы рух, яны прабіваюць рэфармісцкую сьцяну.

Падставай гэтых новых шляхоў сувязі савецкага рабочага з рабочым Эўропы і Амэрыкі зьяўляецца рост нашай соцыялістычнай гаспадаркі. Гэтым спраўдываюцца наступныя словы Леніна:

„Зараз галоўнае сваё вазьдзейнічаньне на міжнародную рэволюцыю мы аказваем сваёй *гаспадарчай політыкай.* Усе на Савецкую Расійскую Рэспубліку глядзяць, усе працоўныя ўва ўсіх краінах сьвету, без усялякага выключэньня і без усялякага перавялічэньня... На гэтым шляху барацьба перанесена ва ўсясьветным маштабе. Вырашым мы гэтую задачу—і тады мы выйгралі ў міжнародным маштабе напэўна і канчаткова“ (Ленін, т. XVIII, ч. I, стар. 282).

Мы нашы інтэрнацыянальныя абавязкі выконваем—што-б там ні гаварыла опозыцыя наконт „нацыянал-рэформізму“ ва ЎсеКП(б) і інш. Сымпатыі міжнароднага пролетарыяту ўзмацнілі, змагаючыхся атрадаў міжнароднага пролетарыяту не пакінулі, а ўсялякімі спосабамі іх падтрымлівалі, сувязі з прыгнечанымі народамі Ўсходу ўзмацнілі.

Труднасьцяй яшчэ шмат наперадзе. Першае дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавае Рэволюцыі перадае другому дзесяцігодзьдзю аграмадную колькасьць задач, яшчэ ня вырашаных, на вырашэньні якіх будзе згрупована моц працоўных мас краіны, Комуністычнае партыі і Савецкае ўлады.

Перамога політычная ў кастрычніку 1917 году даказала, што пролетарыят нашае краіны досыць моцны, каб скінуць буржуазію, каб упяршыню ў сьвеце запраўды ажыцьцявіць дыктатуру пролетарыяту.

Перамогшы ў грамядзянскай вайне, адбіўшы напады абшарнікаў і капіталістых, пролетарыят, разам з сялянствам даказалі, што яны могуць абараняць заваёванае, што яны не аддадуць заваёванага капіталістым і абшарнікам і замежным інтэрвэнтам.

Аднавіўшы гаспадарку ў даваенных разьмерах, з новымі соцыяльнымі адносінамі, пролетарыят даказаў, што ён ня толькі можа скідаць і браць уладу, што ён ня толькі можа абараняць заваёванае, але, што ён можа будаваць і пасьпяхова будаваць соцыялізм у сваёй краіне.

Мы здолеем перабароць усе цяжкасьці, якія стаяць на шляху далейшага соцыялістычнага будаўніцтва, мы здолеем вырашыць новыя задачы, як вырашалі ня менш трудныя задачы на працягу 10 год.

Н. Калінін

# Ахова працы на Беларусі

## I

Узрост прамысловасьці, а разам з тым, павялічэньне рабочай клясы, яе рэволюцыянізіраваньне, прымусіла царскі ўрад у 1882 г. утварыць фабрычную інспэкцыю, з аднаго галоўнага і 2-х акруговых інспэктароў. У 1884 г. ужо было арганізована 9 фабрычных акругоў, са штатам у 20 асоб; Менская і Магілеўская губэрні былі падлеглы Кіеўскаму фабрычнаму округу. Буржуазія пад націскам рабочых, паступова пашырала штат інспэкцыі, і, перад рэвалюцыяй у Расіі было 273 інспэктары. Арганізоўваліся вучасткі. У Менскай, Віцебскай і Магілеўскай г. вучасткаў было па тры. (Тэорыя і практыка аховы працы С. Каплуна, ст. 77) (Журнал Нарады ст. Фабрычных Інспэктароў Кіеўскага округа).

Прамысловасьць да рэвалюцыі ў сучаснай Беларусі—будавалася дробная, саматужная і паўсаматужная і расла яна, выключна, за лік эксплёатацыі рабочай клясы. Работу пачыналі з 6 гадзін раніцы, канчалі ў 7 гадзін веч.—Поўгадзіны сьнеданьне, гадзіна на абед. Чыстае работы $11^{1}/_{2}$ гадз. За спазьненьне на работу фабрыкант меў права штрафаваць рабочых на $^{1}/_{3}$ усяго месячнага заработку, а калі штраф правышаў $^{1}/_{3}$, дык гаспадары прадпрыемства маглі скасаваць працоўную ўмову з рабочымі. Шмат прадпрыемстваў не здавальняліся па закону штрафаваць $^{1}/_{3}$, яны штрафаваліся па 30 і 50 проц. агульнага месячнага заработку. У той час закон проста гаварыў: „Загады гаспадара фабрыкі, альбо завода аб налажэньні на рабочых штрафа абскарджэньню не падляжыць“. (Творы Леніна, том I, ст. 274—275). Фабрычная інспэкцыя на гэта не зьвяртала ніякай увагі; яна была чужая рабочай клясе, і аддана ўсёй душой капіталістым. Калі інспэкцыя бачыла, што рабочыя могуць узбунтавацца, тады яна старалася прымірыць гэтыя два варожыя лягеры. Аб гэтым, напрыклад, сьведчыць перапіска ст. Фабрычнага Інспэктара Менскай і Віцебскай губ. Віцебскі губэрнатар піша фабрычнаму інспэктару: „Па маючымся ведам, на фабрыках ёсьць непаразуменьні паміж адміністрацыяй і рабочымі на грунце несваечасовай выплаты ім пэнсыі. Прыміце мэры дабравольнага ўрэгуляваньня непаразуменьняў. У гадавых справаздачах фабрычная інспэкцыя пісала аб усім, але заўсёды старалася ня пісаць праўду, таіць нездавальненьне рабочых.

У „крайнім выпадку“, пісала, напрыклад, так: толькі на заводзе „Труды“, Полацкага павету было хваляваньне рабочых на грунце начных і звыштэрміновых работ“.

Старая фабрычная інспэкцыя існавала не для правядзеньня працоўнага, хоць і куртатага законадаўства. Яна часта поруч з фабрыкантамі і заводчыкамі баролася з рэвалюцыйнымі настроямі рабочых.

Больш перадавых рабочых выдавала ў рукі паліцыі і, такім чынам, праводзіла работу з паліцыяй і жандарамі ў поўным кантакце. Аб гэтым лепш усяго сьведчыць зусім сакрэтны абежнік міністра грашовых спраў Віттэ: „Неабходна мець веды аб настроі ўсіх рабочых Вашага раёну,

п. п. чыны фабрычнай інспэкцыі павінны тэрмінова паведамляць аб іх у Аддзел Прамысловасьці шыфрованай тэлеграмай". Прыведзеная вытрымка яскрава сьведчыць, што фабрычныя інспэктары былі шпіёнамі. Толькі яны гэтую работу праводзілі вельмі тонка, як людзі, меўшыя вышэйшую адукацыю.

Гэты самы абежнік ускладае на фабрычную інспэкцыю абавязак быць агітатарамі, „як людзі, блізка знаёмыя з фабрычным строем, яны павінны ўнушыць рабочым, што імкненьне дасягнуць законных праў процівазаконнымі мерамі (гвалтам), урад не дапусьціць, закон аднолькава ахоўвае праўдзівыя правы як фабрыкантаў, так і рабочых".

Прыведзеная апошняя вытрымка досыць яскрава і зусім не патрабуе растлумачэньня таго, наколькі існавала сваявольле фабрыканту ў адносінах да рабочых як дарослых, так і падлеткаў.

Працавалі дзеці ад 10 гадоў, галоўным чынам, на тартаках, па выносцы апілак з шахт. Шмат гэтых дзяцей калечылі машыны, вельмі рэдка за гэта абвінавачвалася адміністрацыя фабрыкі, альбо заводу, а заўсёды ў заключэньнях і пісалася: „Па неасьцярожнасьці рабочага, адносіў дошкі, зачапіўся за машыну, адарвала яму руку" і г. д.

II

Пасьля лютага 1917 г. матэрыяльнае і прававое становішча рабочай клясы таксама не паляпшалася, а кожны дзень пагаршалася.

Фабрыканты і заводчыкі, будучы няўпэўнены ў тым, што заўтра яны будуць гаспадарамі сваіх прадпрыемстваў, усякімі спосабамі стараліся больш пажывіцца за кошт рабочага. Скобелеўскае меншавіцкае міністэрства працы, як і ўся меншавіцкая партыя, у гэтым дапамагала шчыра капіталістым. Яны казалі: „да правядзеньня сыстэмы мер па ўпарадкаваньню эканамічнага жыцьця дзяржавы, ня толькі ня можа быць і рэчы аб паляпшэньні становішча рабочай клясы, але хуткае і прагрэсыруючае пагаршэньне становішча рабочых робіцца немінучым" (Пуцевадзіцель па рэзолюцыям Усерасійскіх Зьездаў і канфэрэнцый профсаюзаў"—Мілонаў стар. 75 і 76). Як выхад з гэтага становішча, яны бачылі прыцягненьне ўсіх вытворчых клясаў насельніцтва да вырашэньня эканамічнай задачы, стаячых перад краінай. Зыходзячы з гэтага яны імкнуліся збудаваць фабрычную інспэкцыю.

Па праэкту Керанскага, фабрычныя інспэктары не выбіраліся, а назначаліся ўрадам, у агульным парадку, з асоб, скончыўшых вышэйшую навуковую ўстанову, а таксама з асоб, прабыўшых ня менш 4-х гадоў на пасадзе асыстэнта; усе гэтыя кандыдаты павінны вытрымаць яшчэ спэцыяльныя іспытаньні ў асобай камісіі пры міністэрстве працы.

Акруговыя інспэктары і першыя вучастковыя, назначаліся, непасрэдна, міністрам працы з асоб прабыўшых ня менш 3-х гадоў участковым інспэктарам. Самы парадак назначэньня фабрычнай інспэкцыі гаворыць за тое, што рабочы стаць інспэктарам ня мог, бо ў той час ня было рабочых, якія скончылі-б курс вышэйшай навуковай установы, а, калі-б буржуазія засталася ў улады, то рабочаму папасьці ў вышэйшую навуковую ўстанову было, таксама, амаль немагчыма.

На выпадак, калі-б з гэтых фабрычных інспэктароў мог знайсьціся, які мог пакрыўдзіць фабрыканта—Керанскі прадугледжваў утварэньне Галоўнай Палаты Працы, якой падпарадкаваліся ўсе акружныя палаты працы. Галоўная палата працы мела права выдаваць усе законы маючыя адносіны да пытаньняў працы. Яна арганізоўвалася на „парытэтных" асновах, пад старшынством міністра працы. У яе ўваходзілі: 2 асобы ад міністэрства працы і ад міністэрства юстыцыі, 20 ад прафэсыянальных арганізацый ўласьнікаў прадпрыемстваў; 20 ад прафэсы-

янальных арганізацый рабочых, па 1 прадстаўніку ад уласьнікаў і рабочых акруговых палат працы і па 1 прадстаўніку ад земскага і гарадзкога самакіраўніцтва. Паміма парытэтаў, 6 мейсц давала дзяржава „грамадзе“. Галоўная палата працы павінна зьязджацца на сэсыю 2 разы ў год. У прамяжутак паміж сэсыямі палаты працы функцыяніруе камітэт галоўнай палаты працы, які вядзе бягучую работу, вырашае скаргі, паступаючыя з мейсц, адмяняе непраўдзівыя пастановы акруговых інспэктароў і палат працы. Гэты камітэт організоўваўся з 7 асоб ад уласьнікаў і 7 ад рабочых. Такім чынам урад Керанскага ўсякімі спосабамі стараўся абясьпечыць капіталістаў, шляхам розных кааліцый, на шкоду рабочай клясе.

Рабочыя масы на Беларусі пад уплывам тяжкага матэрыяльнага становішча, выкліканага ваеннымі абставінамі, непасільнай эксплёатацыяй, бяспраўем, антысанітарнымі ўмовамі працы, няпрыняцьцем існуючым урадам ніякіх крокаў да палепшаньня дабрабыту рабочых,— ужо ў сакавіку м-цы 1917 г. пачынаюць баставаць. Рабочыя фанернага заводу Нусоў-Краснапольле ў колькасьці 60 чал. апавясьцілі забастоўку, якая цягнулася 4 дні. У красавіку м-цы забаставалі ў ліку 25 чал. рабочыя тартака Ліўшыца на ст. Верхуціна. У траўні м-цы, у друкарні Саламонава ў Менску—35 рабочых баставалі 2 дні. У Чэрвені: тартак-фанерны завод Бермана на ст. Пціч, Мазырскага павету—52 рабочых, забастоўка цягнулася да двух тыдняў; на фабрыцы шаўцовых капылоў Ашаровіча ў Смалявічах, Барысаўскага павету—125 рабочых баставалі 7 дзён; кістачна-шчацінная ф-ка Бермана і Позьняка (Менск)—16 рабочых, 3 дні; на ф-цы сухіх элемэнтаў „Энергос“ (Менск)—15 раб. 4 дні; таксама баставалі 3 каўбасныя ф-кі—16 рабочых, у Менску і Віцебску, каля 12 дзён; тартак Гельмана пры ст. Жыткавічы—25 раб., забастоўка цягнулася 12 дзён; на 2 тартаках Каплана і Ліўшыца—200 чал. рабочых баставалі 3½ дні. У жніўні м-цы гэтыя-ж заводы апавясьцілі другі раз забастоўку, якая цягнулася ўжо 7 дзён. Апошняя была забастоўка ў жніўні на ф-цы электрычных элемэнтаў „Энергос“—22 рабочых, 6 дзён. У верасьні м-цы ў Менску забаставалі скураныя заводы: Сальмана, Дзіна, Гольдберга, Магідса, Форына, у ліку 222 рабочых, якія патрацілі 666 дзён. У кастрычніку м-цы, мэханічная майстэрня „Млот“ (Менск),—105 рабочых, 1 дзень; кістачна-шчацінная Бермана і Позьняка—20 рабочых баставалі ў другі раз; Дражджавы броварны завод бр. Ракоўшчык, Гурэвіча і Нусбейна—265 рабочых, каля 6 дзён. За ўвесь 1917 г., па ведам фабрычнай інспэкцыі б. Менскай губ. прынялі ўдзел у забастоўцы 1601 раб., яны патрацілі 8.828 дзён. Акрамя гэтага, па газэтным ведам, у гэтым годзе баставалі ў Менску рэстараны і шмат іншых катэгорый рабочых і служачых.

Характэрна тое, што ў забастоўках прымалі ўдзел рабочыя ў поўным ліку, па ўсіх баставаўшых прадпрыемствах. У пераважнай большасьці рабочыя высоўвалі трэбаваньні аб павялічэньні пэнсіі, па месячнай выплаце, шмат патрабаваньняў было аб адмене звыштэрміновай працы, пратэставалі супроць звальненьня рабочага без яго на тое згоды, трэбавалі 8-гадзінны працоўны дзень, асабліва ваеннапленныя. Былі і гэтакія трэбаваньні: даць мейсца для заводзкага камітэту, памяшканьне пад клюб, арганізацыя прымірыцельнай камэры і шмат інш.

Як відаць з даклада ст. фабрычнага інспэктара Менскай губ. у Аддзел прамысловасьці, трэбаваньні рабочых аб павялічэньні пэнсыі і іншыя эканамічныя трэбаваньні, здавальняліся без вялікай супярэчнасьці з боку ўладароў прадпрыемстваў; фабрычны інспэктар пісаў: „Вялікае запытаньне на ўсю вытворчасьць, высокія на яе цэны даюць поўную магчымасьць пералажыць лішнія выдаткі на спажыўца“.

Магчыма дзеля гэтага забастоўкі праходзілі мірна, былі, аднак, такія выпадкі, калі ўласьнікі адмаўляліся здавальняць трэбаваньні рабочых, і апошнія, усё роўна, зьвярталіся на работу, на старых умовах (Тартак Борухова і Лііўшыца).

Па ўсім пытаньням, якія магчыма аднесьці да прававрга зьместу, ўладары прадпрыемстваў вялі барацьбу ўсімі маючымі сродкамі, і няводнага кроку, у гэтым напрамку, яны рабочым не ўступілі аж да Кастрычнікавай Рэвалюцыі.

У гэты час, роль фабрычнай інспэкцыі зусім не зьмянілася, яна засталася старая. Фабрычная Інспэкцыя сваечасова аб'яўляла міністэрству працы аб забастоўках, часта фабрычная інспэкцыя скардзілася на рабочых, якія вельмі шмат патрабуюць. Рабочае законадаўства, таксама было як пры царскім урадзе, бо новы буржуазны ўрад ня быў зацікаўлены ў хуткім яго вырашэньні („Ахова Працы і яе Ворганы" С. Каплун, ст. 74-76, „З усерасійская канфэрэнцыя прафсаюзаў 1917 г.". Перапіска справаздачы фабрычнай Інспэкцыі за 1917 г. Менск—архіў).

## III

Толькі пасьля Кастрычнікавай Рэвалюцыі ў 1917 г. Савецкая ўлада, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, атрымала магчымасьць правадзіць, у законадаўчым парадку, „праграму мінімум" у галіне аховы працы.

Ужо ў першым „Кодэксе аб працы", які быў прыняты на 3 усерасійскім зьезьдзе Саветаў, былі вырашаны асноўныя прынцыпы працоўнага законадаўства. Пасьля вызваленьня Беларусі ад акупантаў, гэтае працоўнае права распаўсюджылася і на БССР. З гэтага часу пачалася ў нашым краі ахова працы. Па сутнасьці, яна стала няправодзілася з 1920 г. па 1921 г.; апарат НКП быў прыстасованы да стаячых перад ім задач: падлік і распрадзяленьне рабочай сілы, барацьба з працоўным дзезярціратвам, правядзеньне агульнай працоўнай павіннасьці. Аддзел аховы працы, які існаваў пры НКП ня мог паставіць гэту работу, паколькі гэтаму перашкаджалі ўмовы вайны і блёкады.

У траўні м-цы 1921 г. ахова працы перадана была прафсаюзам, быў утворан П/Аддзел Аховы працы пры тарыфн. норміровачным Аддзеле. Прафсаюзы праводзілі гэту работу адзін год. На другім зьезьдзе прафсаюзаў, які адбыўся 16 красавіка 22 г., быў пастаўлены даклад аб ахове працы.

У гэтым годзе была ўтворана вучастковая інспэкцыя, якая рабіла абсьледваньне прадпрыемстваў. Паўстала пытаньне перад прафсаюзамі аб выпарадкаваньні працоўнага дню для розных груп рабочых і служачых. У зьвязку з гэтым, напрыклад, ад імя АНО была выдана абавязковая пастанова, якая рэгулявала працоўны дзень сярод работнікаў АНО. Гэткія выпадкі сьведчылі аб патрэбнасьці дзяржаўнага органа, які меў-бы права выдаваць абавязковыя пастановы, упарадкоўваючыя працоўны дзень для розных катэгорый працоўных.

Дэкрэтам ад 17 красавіка 22 г. гэта праца была ўскладзена на НКП. Галоўны зьмест дэкрэту: „Перадаць ад Усерасійскага Цэнтральнага Савету Прафсаюзаў і другіх органаў прафсаюзаў у Народны Камісарыят Працы і яго мяйсцовыя органы ўсе дзяржаўныя функцыі аховы працы, у прыватнасьці Інспэкцыю Працы, Саніт. і Тэхнічн." (Зборнік законаў за 22 г. дэкрэт Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў). На падставе гэтага дэкрэту ў нашым краі, як быўшай частцы фэдэрацыі, ахова працы стала дзяржаўнай. Яна была перадана Цэнтральным Саветам Прафсаюзаў у НКП, пры якім быў утвораны Аддзел Аховы Працы, які стаў вясьці плянава работу; распрацоўваць

пастановы, скантактоўваць іх з саюзнымі органамі і Дзяржаўным спосабам стаў упарадкоўваць, і правадзіць у жыцьцё працоўнае заканадаўства.

Прасьцяг ад 2 да 3 зьезду прафсаюзаў магчыма адзначыць годам, у які пачалося сыстэматычна правадзіцца ў жыцьцё працоўнае заканадаўства.

У пачатку 1924 г. да старай Беларусі далучаецца Віцебская і частка быўшай Магілеўскай губ., і ўжо ў аб'яднанай справаздачы да IV зьезду прафсаюзаў чытаем: „Рабочы дзень поўнасьцю захоўваецца, здавальненьне рабочых спэцвопраткай праведзена на 50-75%“ і падкрэсьлена: „яшчэ лепш абстаіць пытаньне ў прыватных прадпрыемствах“. К гэтаму моманту мы ўжо маем магчымасьць адзначыць паляпшэньне санітарна-гігіенічных і тэхнічных умоў працы.

У рэзалюцыі IV зьезду прафсаюзаў чытаем: „Неабходна ўзмацненьне абсьледваньня саюзамі, разам з органамі НКП тэхнічнага стану прадпрыемстваў як дзяржаўных, так і прыватных“. Гэта пастанова робіць некаторыя зьмены ў правядзеньні аховы працы ў нашай прамысловасьці. Гэта значыць, што органы НКП павінны непаслабляючы правадзіць у жыцьцё нормы працоўнага заканадаўства і, разам з тым, браць курс на капітальнае аздараўленьне ўмоў працы на прамысловасьці, у плянавым парадку.

У справаздачы да V зьезду прафсаюзаў, высьветлена шмат недахопаў у нашай прамысловасьці: „Згуртованасьць пароў і газаў, недахоп асьвятленьня, адсутнасьць вэнтыляцыі і абсталяваньня“. Для зьнішчэньня гэтых недахопаў, зьезд даў органам НКП дырэктывы ўзмацніць умоўную практыку. Гэта пастанова ўсклала на ахову працы абавязак зьнішчаць недахопы, паляпшаць умовы працы рабочых ня толькі шляхам прадпісаньняў, але і шляхам згоды з гаспадарчымі органамі. Акрамя таго, усе проэкты будоўлі новых фабрык і заводаў разглядваюцца Спэцінспэкцыяй НКП, якая сочыць, каб гэтыя прадпрыемствы адпавядалі ўмовам аховы працы.

Вось гэтым практычным мэтодам НКП і прафсаюзы, пад кіраўніцтвам партыі, праводзяць аздараўленьне ўмоў працы ў нашай Соцыялістычнай прамысловасьці. У гэтым напрамку была прынята рэзолюцыя на IV усесаюзнай нарадзе ў Кастрычніку 1926 г., якая гаворыць: „Камісарыят запраўды дабіваецца рэальнага правядзеньня намечаных мерапрыемстваў, шляхам правядзеньня сваіх прапазыцый у адпаведных гаспадарчых, грашовых плянiруючых органах. У адносінах да ўсіх буйных і сярэдніх прадпрыемстваў, органы аховы працы павінны распрацоўваць пэрспэктыўны плян“. Цяпер ужо распрацованы 5-гадовы пэрспэктыўны плян па ахове працы ў БССР, у якім прадугледжана на тэхніку забясьпекі, вэнтыляцыю, і абсталяваньне і шмат іншых мерапрыемстваў 729.000 руб.

Такім чынам, прапанова „15 апазыцыянэраў“: „Гаспадарчыя, прафсаюзныя і органы НКП павінны распрацаваць шэраг практычных мерапрыемстваў па аздараўленьню і паляпшэньню умоў працы, мэханізацыі цяжкіх і шкадлівых работ“,—зусім позьняе і, пагэтаму, лішняе. Няшчасныя выпадкі ў нашай прамысловасьці не „бясперарыўна растуць“, як кажа апазіцыя, а толькі паляпшаецца іх вучот.

Што датычыцца да прыбліжэньня нашых фабрык „к даваенным“, то гэтае пытаньне я высьвятліў вышэй і тут на гэтым спыняцца ня буду, бо, магчыма, знойдуцца рабочыя, якія самі к 10 гадавіне Кастрычнікавай Рэвалюцыі, прыпомняць, як ім жылося пры цары, пры Керанскім, і як цяпер.

Менш за 10 гадоў існаваньня Савецкай улады на Беларусі ў нас, поўнасьцю праведзены 8-гадзінны працоўны дзень, як максімальны рабочы час. Поўнасьцю праводзіцца ў жыцьцё закон аб водпусках, кожны працоўны па найму карыстаецца, як мінімум, двухтыднёвым адпачынкам. У асабіста шкадлівых галінах вытворчасьці даецца скарочаны працоўны дзень, 6-7 гадзін. Сюды ўваходзіць большасьць рабочых шкляной прамысловасьці, некаторыя катэгорыі друкароў, і шмат іншыя катэгорыі рабочых. Акрамя гэтага, рабочыя, якія працуюць у асабліва шкадлівых галінах прамысловасьці, карыстаюцца дадатковым двухтыднёвым адпачынкам. Шмат катэгорый рабочых атрымоўваюць нашкадлівасьць спэцхарчы (малако). Наша прамысловасьць траціць сотні тысяч руб. у год на спэцвопратку, якая ахоўвае рабочых ад шкадлівасьці.

Праводзіцца ў жыцьцё 42 гадзіны адпачынку кожную нядзелю для ўсіх працуючых па найму. Даецца вотпуск цяжарным жанчынам 8 нядзель да родаў, і 8—пасьля. Забаронена скарачаць з працы цяжарных жанчын без дазволу прававога інспэктара, але інспэктар, амаль ніколі, згоды на гэткае звальненьне не дае. Забаронена карыстацца начной працай жанчын і падлеткаў, маладзей 16 гадоў, у шкадлівых галінах вытворчасьці. Таксама, забаронена звыш-тэрміновая праца як мужчынам, так і жанчынам, якім няма 18 гадоў.

Наша інспэкцыя па ахове працы абіраецца рабочымі (прафсаюзамі). Інспэкцыя, у большасьці сваёй складзена з рабочых і, пагэтаму, яна добра ведае жыцьцё рабочых на фабрыках і заводах. Яна мае шчыльную сувязь з прафарганізацыямі, і пэрыядычна перад імі робіць справаздачу. За гэтых, менш як 10 гадоў арганізована даволі добрая тэхнічная і санітарная інспэкцыя, якая вывучае жыцьцё і ўмовы працы на прадпрыемствах, з навуковага боку.

На нашых фабрыках, заводах і ўстановах ёсьць камісіі па ахове працы, якія падлеглы непасрэдна, фабзаўкому. Фабзаўком імі кіруе і дае ім практычны напрамак у працы. Гэтыя камісіі павінны сачыць, на колькі адміністрацыя клапоціцца аб паляпшэньні дабрабыту рабочых.

Такім чынам, можна сказаць, што тыя галоўныя пытаньні, за якія рабочая кляса вяла барацьбу каля 100 год, у асноўнай часьці выкананы. У далейшым мы павінны імкнуцца да таго, каб утварыць для рабочых найлепшыя здаровыя ўмовы працы. Чым хутчэй мы гэта зробім, тым лягчэй нам будзе працаваць на шляху социялістычнага будаўніцтва.

**Б. Быховский**

# Философия на службе революции

Владимир Ильич, находясь в сибирской ссылке, усердно и тщательно читал не только работы Плеханова по философии, но и французских материалистов XVIII столетия. Кантианский ревизионизм германской социал-демократии побудил его внимательно следить за полемикой в марксистском лагере и приняться вплотную за изучение кантианской литературы. Далее, Ленин старательно штудирует „Науку Логики" Гегеля, конспектируя прочитанное и сопровождая конспект рядом собственных замечаний о диалектике. Новая волна ревизионизма, на этот раз махистского, находит во Владимире Ильиче горячего и деятельного противника. Он разражается большим полемическим „письмом" против А. Богданова (письмо это не опубликовано) и вслед за этим с головой уходит в работу по изучению философских предтеч эмпириокритицизма и философии современного естествознания, с тем, чтобы во всеоружии выступить против „исправителей" и „дополнителей" марксизма. Плодом этой упорной научной работы был „Материализм и Эмпириокритицизм. Война и революция 1917 г., как раньше революция 1905 года, надолго заставили Ленина забросить свои занятия философией. И лишь в 1922 г., из ссыльного и политического эмигранта превратившийся в главу величайшего пролетарского государства, отстоявшего с легендарным героизмом свою сохранность и благополучно совершившего труднейший маневр перехода к экономическому восстановлению, лишь тогда Ленин считает необходимым снова поставить в порядок дня вопросы марксистской философии и в статье „О значении воинствующего материализма" намечает программу текущих задач философов-революционеров.

Вся жизнь и деятельность Ленина была подчинена одной цели. Он полон был одной думой, знал одну великую мечту—революцию пролетариата. Все, что он делал—служило ей; все, что не служило ей—было чуждо Владимиру Ильичу.

Занятия Ленина философией, его ревностная защита диалектического материализма не имели бы места, если бы судьбы философии были безразличны для судеб революции, если бы марксистская теория не была необходимым орудием пролетарской практики.

Личный пример Ильича служит лучшим доказательством того, что наша—работников на поприще философии—деятельность может и должна быть интегральной частью социалистического строительства, что для Ленинской партии в день десялетия ее победы не будет праздным вопросом: каковы наши достижения на этом участке за первые 10 лет пролетарской диктатуры?

* * *

Марксисты-философы не изменили философии, когда, оставив пыльные книжные углы, шагали по Мозырским болотам, Беловежским лесам или Даирским уступам. Они делали последовательный вывод из своей

философии. И, наоборот, сотни коммунистов-рабочих, устремившихся после мира с Польшей и победы над Врангелем, к углубленному изучению марксистской философии—сделали лишь последовательный вывод из своего опыта гражданской войны. Если революционная практика заставляет осмыслить себя, вооружившись марксистской теорией, то философия марксизма приводит своих приверженцев к необходимости непосредственного участия в борьбе рабочего класа; философия упирается в социализм. В самом деле, познавая, что философия есть социальная функция, определяемая классовыми интересами и классовой психологией, мы приходим в своей борьбе с антинаучными идеалистическими направлениями в философии к заключению о необходимости для торжества наших философских воззрений не только теоретически преодолеть идеализм и метафизику, но и практически перапахать ту социальную почву, на которой способны произрастать антинаучные теории. Борьба с мистикой и скептизмом не может победоносно завершиться, пока держится питающий ее общественный строй. Нельзя быть последовательным диалектическим материалистом, не становясь в боевые ряды революционного пролетариата, так как „философия находит в пролетариате свое материальное оружие, подобно тому, как и пролетариат находит в философии свое духовное оружие". Революция осуществляет философию, коммунизм есть, по выражению Маркса, практический материализм. Между пролетариатом и марксистской философией ненарушимая связь: философия обосновывает дело пролетариата и *освещает* ему путь, пролетариат возводит незыблемую социальную базу под материалистическую философию и *прокладывает* ей путь. Судьбы их неразрывно связаны. Октябрь знаменует начало новой эры также и в истории философии.

* * *

Судьбы пролетариата определяют судьбы философии диалектического материализма. Рабочей диктатуре сопутствует идейная гегемония марксизма. За поражениями рабочего класса следует волна мракобесного идеализма. Когда в Октябре пролетариат России взял в свои руки руководство страной, вместе с ним сделалась идейным гегемоном в стране материалистическая философия. Первые пять лет диктатуры—когда победивший пролетариат отстаивал свое существование в непосредственной физической схватке с врагом, не могли быть годами строительства новой философской культуры. Эта задача стала возможной и необходимой, когда мы перешли к восстановлению, а затем к реконструкции хозяйства. И в самом деле, 1922-27 годы были годами упорной и плодотворной теоретической работы. Клевета врагов на большевиков, как разрушителей культуры, оказалась архи-вздорной даже применительно к такой тончайшей и отвлеченной сфере культуры, как философия. Правда, крах русского империализма был крахом и русской идеалистической философии. Представители последней либо не смогли приспособиться к потребностям и задачам социалистического строительства, либо—и таких подавляющее большинство—не пожелали оставаться и работать в новых социальных условиях. Идеологи русской буржуазии остались верны ей, разделив ее судьбу, последовав за нею в эмиграцию. Там, в русском богословско-философском факультете Парижа, в Берлинской „Софии" или Пражском „Логосе" продолжают они „славные философские традиции", перепевая реакционнейшие мотивы западной философии декаданса, сбросив последние фиговые листки наукообразности, ища утешения в боге, каясь в либеральных грехах юности и истекая ядовитой слюной при одном упоминании об атеизме, материализме, социализме.

Настоящая Россия, живая и творческая, была поставлена перед задачей воссоздать философскую мысль в стране. И подобно тому, как воссоздание разрушенного хозяйства было не восстановлением прежнего капиталистически-феодального хозяйства, а его радикальной реорганизацией на социалистической основе, точно также и задачей послереволюционной философии был не Сизифов труд восстановления разрушенного, а достижение в ближайшие годы прежней *ступени* философской культуры, однако культуры иного, высшего *типа.*

Значение этой задачи выходит за пределы Советского Союза, точно так же как хозяйственное восстановление страны Советов имеет огромное международное значение, представляет собой достижение мирового пролетариата, и расцвет марксистской теории у нас играет роль существенного фактора в деле идеологического вооружения международного рабочего класса. СССР стал также и теоретическим центром мирового рабочего движения.

* * *

Пренебрежительное отношение к философии со стороны отдельных товарищей, противопоставление ее науке, третирование ее как буржуазной идеологии не имело сколько-нибудь значительного резонанса. Лозунги „философию за борт!“ или „наука- сама себе философия“ остались одинокими, не получив сочувствия. Они были квалифицированы как навеянные психологией „малых дел“, узкого практицизма, грозящего потерей перспективы и перерождением. Традиции марксизма, с одной стороны, потребности действительной борьбы и строительства, с другой— содействовали не угасанию, а росту философской мысли в СССР.

По каким руслам шла наша теоретическая работа? Какие задачи, по мере сил, осуществляла она и продолжает осуществлять?

Первой задачей было прямое *обоснование пролетарской революции* и социалистического строительства: дальнейшая разработка учения Маркса и Ленина о классовой борьбе и эпохе социалистической революции. Эта задача включает в себя: отпор непрекращающимся попыткам „опровергнуть“ теоретические основы революции и „ревизовать“ их, дальнейшее углубление и разработка теории (вопрос о крестьянстве, как классе, об интеллигенции, о понятии производительных сил и т. д.), теоретический охват новых социальных явлений быстротечной современности (фашизм, например) и, наконец, издание и популяризацию литературного наследства учителей. Я вынужден отказаться в рамках этой статьи от конкретного перечня достижений в каждой из этих областей. Издание сочинений Ленина и Ленинских сборников, работы товарищей: Бухарина, Сталина и др., критика новых работ Кунова, Каутского, Зомбарта, Ленца, „конструктивных социалистов“, „австро-марксистов“, и проч., разработка ряда отдельных проблем, издание учебных руководств—вот в чем важнейшие проявления этой работы по обоснованию революции. Огромность и первостепенная важность этой задачи заставила выделить этот ударный круг проблем в специальную дисциплину—ленинизм—своим организационным центром имеющую Институт Ленина при ЦК ВКП(б). Достаточно сказать, что один библиографический обзор работ по ленинизму представляет собою об‘емистый том.

Другой задачей было *дать отпор новейшим идеалистическим изощрениям западной философии.* Должно признаться, что в области критического преодоления современных реакционных философских веяний сделано еще недостаточно. Все же проделана некоторая работа в борьбе с шпенглерианством, Бергсоновским интуитивизмом, феноменоло-

гизмом Гуссерля, фрейдизмом, неокантианством, католической философией М. Шелера. Шпенглеру и Фрейду у нас сравнительно „повезло". Достойную отповедь получили попытки неогегельянского ревизионизма Лукача и Корша. Ознакомлен советский читатель и с философскими похождениями „наших" доморощенных философов—Бердяевых, Франков и прочих Карсавиных. Все же, повторяем, изучение и разоблачение современного идеализма велось не всегда достаточно интенсивно и систематично.

Третьей задачей было *овладение наследством истории философии*. Марксизм никогда не был „Иваном Непомнящим". Его основоположники всегда отмечали, что марксизм является продуктом всего предшествующего философского и научного прогресса, Для проникновения в диалектический материализм необходимо изучение его разнообразных истоков. Кроме того, перед марксистами стала задача переоценки историко-философских ценностей, радикальной переработки всей истории философии, столетиями фальсифицировавшейся идеализмом. Это потребовало восстановления подлинной философской физиономии и научного значения замалчиваемых и искажаемых представителей материализма и критической проработки учения столпов идеалистической философии. При этом к изучению самой истории философии нужно было применить материалистической метод. Такая задача не может быть осуществлена в несколько лет. Однако продвинулась марксистская философия в ее реализации значительно. Мы обогатились рядом работ по античному материализму Демокрита и Эпикура, о Беконе, Гоббсе и Локке, проделано большое и интересное изучение Спинозы, ряд монографий посвящен отдельным французским материалистам XVIII столетия, Фейербаху, истории диалектики. Последняя тема, особенно диалектика Гегеля, является предметом исключительно серьезного изучения, которое, несомненно, даст ценные научно-литературные плоды в ближайшие годы. Отдельные статьи были посвящены изучению социалистов-утопистов и мало изученных материалистов: Леруа, Толанда, Стоша, Варнава, Эдельмана, Радищева и др.

Параллельно исследовательской работе по истории философии шла обширная издательская работа, руководимая, главным образом, „Институтом Маркса и Энгельса", ставящая целью дать в русских изданиях классиков материализма. Изданы избранные произведения Гоббса, Гольбаха, Дидро, Ля-Метри, Фейербаха. Из других историко-философских материалов, впервые изданных на русском языке, следует отметить 10 книгу Диогена Лаэрция об Эпикуре и „Принципы философии Декарта" Спинозы.

Огромной ценности вкладом в философию являются впервые опубликованные руководимым Д. Б. Рязановым Институтом работы Маркса и Энгельса. Достаточно назвать из них часть „Немецкой идеологии", посвященную Л. Фейербаху, „Диалектику природы" Энгельса и „Критику Гегелевской философии права", чтобы понять, какое это имеет значение для нашей философии. Тому же Институту мы обязаны четырьмя томами полного собрания сочинений Маркса и Энгельса и 26-ю томами Г. В. Плеханова.

Наряду с работой по истории философии и критикой реакционной философии шла работа по *ассимиляции новых достижений науки*. Из-под идеалистической оболочки следовало высвободить то, что было действительно ценного и научного в завоеваниях современного естествознания и обезвредить эти завоевания от всех поползновений использовать их с реакционными целями. Насквозь ретроградная в социальных науках буржуазная мысль способна делать ценнейшие открытия в естественных науках, открытия, подхватываемые идеалистической философией

и обволакиваемые реакционной оболочкой. Отделить здоровое ядро от антинаучной шелухи и включить открытия в систему подлинно-научного мировоззрения—такова обязанность живого развивающегося материализма. Крупнейшими проблемами такого рода за истекший период были: теория относительности Эйнштейна, электронная теория материи и учение о квантах, проблемы эпигенезиса и наследственности, рефлексология и родственные учения об‘ективной психологии (бихевиоризм), Gestaltpsychologie, психоанализ, учение Леви-Брюля о дологическом мышлении. Перечисленные научные теории вызвали горячие дебаты в нашей литературе, оживленное скрещение различных точек зрения по вопросу о значимости этих теорий и их правильной оценке.

Обсуждение отдельных вопросов современного естествознания вскоре переросло в разработку основных принципиальных положений *методологии естествознания*. Этот круг проблем мало разрабатывался марксизмом и стал актуальным для нас лишь в последние годы. Причиной этого является изменение наших очередных классовых задач после Октябрьской победы. Если до Октября все силы поглощались целиком задачей переустройства общественных отношений и поэтому все теоретические устремления были направлены в сторону изучения социальных закономерностей, то после Октября к этой задаче—продолжающей оставаться основной и главной до окончательной победы мировой революции—присоединяется новая злободневная задача: превращение в господствующий класс, овладение производительными силами страны и задачи всестороннего руководства жизнью Союза сделали для рабочего класса СССР и его идеологов насущным овладение технологическими и естественными науками. С другой стороны эти науки грозили стать цитаделью идеализма и теологии. Марксистской методологии нужно было проникнуть в область естественных наук путем научной квалификации марксистски-мыслящих кадров и посредством приближения к марксистской методологии старых кадров естествоиспытателей. Разработка основных принципов методологии естествознания вылилась в обширную дискуссию между механистическим и диалектическими направлениями Эта дискуссия поставила ряд методологических проблем и способствовала отшлифовке наших воззрений. Она обнаружила неблагополучие в рядах марксистов-естествоведов, необходимость глубокого усвоения ими диалектики и внедрения ее в их специальную научную работу. С другой стороны, она побудила философов ближе заняться состоянием современного естествознания, взяться вплотную за его изучение.

Непосредственно к вопросам методологии естествознания примыкает следующая громадная задача—*разработка материалистической диалектики* вообще. Было бы полным непониманием наших задач, если бы от марксистов-философов ожидали новых „делающих эпоху“ систем новых „Коперникианских переворотов“ в философии. Таким переворотом было учение Маркса и Энгельса, в котором даны все необходимые элементы для научного прогресса многих последующих поколений. По отношению к учению Маркса наши задачи могут быть только эволюционными: раскрытие всех таящихся в нем научных возможностей, разработка основоположений теории, революционизирование при помощи ее всех отраслей знания, применение ее для исследования все новых и новых областей природы и общества. Вот почему у нас нельзя наблюдать характерной для западной философии картины, когда каждый доцент философии создает „новую“ и „оригинальную“ философскую систему, в действительности твердящую зады философии и вся новизна которой состоит в словесных терминологических ухищрениях. Подобно тому, как многовековой прогресс, например, геометрии, заключался в разработке ее

на основе незыблемых начал, а не в чехарде этих начал, точно также и задача нашей философии состоит в развитии всех научных потенций марксистской методологии.

Основоположниками марксизма даны однако лишь руководящие принципы. Их нужно разработать. Нужно всесторонне разработать новую логику, оформить новый диалектический „органон". По этому руслу, по руслу систематической проработки материалистической диалектики наша философская мысль пошла, но сделала пока лишь первые шаги на этом пути.

Далее, превращение марксизма в господствующее философское направление потребовало *систематизации учения*, приспособления его для целей широкого преподавания. Классическая литература почти сплошь полемическая. Нужно было создать ряд учебных пособий, упорядоченно излагающих основы теорий. Эта задача разрешена более или менее удовлетворительно.

Наконец, большая творческая работа проделана в деле радикальной перестройки целых научных дисциплин в соответствии с новыми методологическими принципами. Особенно следует отметить здесь работы по созданию *социологии искусства* вместо старой эстетики и общей *теории права*, как отдела материалистической социологии, взамен прежней схоластической философии права. Достигнуты некоторые успехи в изучения социологии и психологии религии. Мало сделано в области этики и генеономии.

Вся эта громадная работа, дать исчерпывающий перечень достижений которой мы здесь не намеревались, предполагает наличие достаточных кадров философов-марксистов. Однако, революционный марксизм 10 лет тому назад насчитывал лишь одиночек философов. Истекший период был десятилетием упорной подготовки и *квалификации новых молодых кадров*. Перечисленные выше работы в значительной части проделаны умами этих молодых, взращенных революцией, философов, многие из которых уже успели зарекомендовать себя, как серьезные и талантливые ученые.

В заключение мы назовем созданные во время революции важнейшие *центры философской мысли*. Такими руководящими центрами являются: кабинет философии Института Маркса и Энгельса, секция философии Коммунистической Академии, Институт Научной Философии РАНИОН, Философское отделение Института Красной Профессуры и кафедры диалектического материализма гуманитарных ВУЗ'ов. Важнейшими периодическими изданиями, в которых помещаются философские труды, являются „Под знаменем марксизма", „Вестник Коммунистической Академии", „Архив Маркса и Энгельса", „Летописи марксизма". Одно время издавались „Воинствующий материалист" и „Записки научного общества марксистов" (Ленинград).

Если марксистская философия составляет лишь один из отрядов строителей коммунистической культуры, то молодая группка философов-марксистов Белоруссии составляет маленькое звено этого всесоюзного отряда. Наши пути идентичны с путями всей марксистской философии; наши старания—вносить скромную посильную лепту в общую творческую работу. Философская деятельность в Б.С.С.Р. имеет своими очагами кафедру диалектического материализма Б.Г.У. и кафедру исторического материализма Коммунистического Университета имени Ленина. Произведения наших работников печатаются, помимо общесоюзных изданий, в „Трудах Б.Г.У." и журнале „Полымя".

* * *

Нам часто приходится слышать обвинения в том, что марксистская философия—не истинная, не „чистая“ философия, так как она руководствуется не служениям Абсолютной Истине (с большой буквы), а интересами пролетарской борьбы. Мы это обвинение принимаем. Да, званию жрецов науки мы предпочитаем звание одного из отрядов строителей социализма, которое стараемся с честью нести. Да, наша философия служит рабочему классу. Но нет ничего легче, чем доказательство того, что и враждебные нам направления философии делают классовое дело на пользу эксплоататорским классам. Внеклассовой философии также нет, как и внеклассовых философов. Разница между нами и нашими противниками в отсутствии лицемерия у сторонников философии пролетариата и в отсутствии у них правильного понимания роли философии в жизни общества. Нам незачем скрывать истинную природу и назначение нашей философии. За тогой бесклассовости и святого служения „Правде-Истине“ скрываются лишь хищнические интересы реакционных классов.

Нам незачем скрывать правду, так как нам не нужно никого обманывать. Чтобы обнаруживать истину, нам не зачем припрятывать классовость философии, так как знание об‘ективной истины соответствует интересам пролетариата, так как в идеологии рабочего класса нет противоречия между интересом и истиной. Пролетариат не боится правды. Она ему необходима. Нам не нужно снов золотых, ибо мы идем в золотую явь. Пролетариат не заинтересован в том, чтобы скрывать законы природы и общества, так как эти законы предвещают ему победу. Истина противоречит интересам того, кто хочет удержать бег истории; она друг того, кого история ведет к победе. Наука открыто может говорить о своем служении пролетариату, поскольку это служение требует от нее об‘ективного познания законов природы и общественной жизни.

Пролетариату полезно не то, что „удобно“, а то, что истинно. Такое понимание практических задач философии, как небо от земли далеко от буржуазной философии прагматизма. Прагматизм признается буржуазией об‘ективно-истинным, так как он ей полезен. Диалектический же материализм полезен пролетариату, так как он соответствует об‘ективной истине.

Яз. Раманчук

## Роля агітацыі ў соцыялістычным будаўніцтве

### (Аб рэалізацыі пастановы ЦК КПБ ад 12 IX-27 г.)

У бягучы пэрыяд, калі Савецкі Саюз уступіў у надзвычайна трудную паласу ў сувязі з абвастрэньнем міжнароднага становішча і труднасьці на шляху соцыялістычнага будаўніцтва, значэньне агітацыйнае работы выключна вялікае.

Аб тым, якая ўвага павінна зварочвацца агітацыйнай рабоце наогул, Ленін кажа:

> ...„Не падлягае ні малейшаму сумненьню, што Комуністычная партыя, якая хоча быць на справе авангардам, перадавым атрадам рэвалюцыйнае клясы-пролетарыяту і якая паверх таго, хоча навучыцца кіраваць шырокай масай, ня толькі пролетарскай, але і не пролетарскай масай працоўных і эксплёатуемых, абавязана ўмець і прапагандаваць і організоўваюць і агітаваць найбольш даступна, найбольш зразумела, найбольш яскрава і жыва як для гарадзкой фабрычнай вуліцы, гэтак і для вёскі (Ленін, том XVII, стар, 191).

У гэтай цытаце, Ленін кажа ня толькі аб самым значэньні агітацыі, але аб тым, якая якраз агітацыя нам патрэбна—агітацыя зразумелая, даступная, шырокім масам рабочае клясы і сялянства.

Аб ролі-ж агітацыі ў пэрыяд мірнага будаўніцтва Ленін кажа:

> ...„Трэба перавыхаваць масы, а перавыхаваць іх можа толькі агітацыя і прапаганда. Трэба зьвязываць масы з будаўніцтвам агульнага гаспадарчага жыцьця, у першую чаргу. Гэта павінна быць галоўным і асноўным у рабоце кожнага агітатара-прапагандысты і калі ён сабе гэта ўцяміць, тады посьпех яго працы будзе забясьпечаны“ (Ленін, т. XVIII, частка II, стар. 186).

Гэта роля агітацыі і прапаганды на данай стадыі разьвіцьця соцыялістычнага будаўніцтва, усё больш узрастае, за тым, што ўскладняюцца задачы будаўнічай работы, да правільнага разуменьня іх трэба прыцягнуць шырокія працоўныя масы, у практычную работу па вырашэньню якіх трэба ўцягнуць шырокія масы рабочых і сялян. Разам з ростам політычнае актыўнасьці рабоча-сялянскіх мас расьце і актыўнасьць варожых партыі і пралетарскай дыктатуры пластоў, у барацьбе з якімі на політычнай арэне агітацыя і прапаганда адыгрываюць буйнейшую ролю.

Само сабой зразумела, што ў розныя пэрыяды, у залежнасьці ад задач і ўмоў работы, агітацыя і прапаганда занімаюць розную ролю ў агульнай сыстэме партыйнай работы. У эпоху заядлай грамадзянскай вайны агітацыя адыгрывала большую ролю, чымся прапаганда. З пераходам-жа да мірнага будаўніцтва, калі задачы партыі і савецкай улады ўскладніліся, калі партыі патрэбны былі кадры працаўнікоў добра разьбі-

раючыхся ў розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва, роля прапаганды ў значнай меры ўзрасла.

У практыцы агітацыйна-прапагандысцкай працы КПБ за апошнія два гады мы бачым, як прапагандзе зварочваецца ўсё большая і большая ўвага. Будуецца сыстэма партыйнае асьветы, падрыхтоўваецца кадр прапагандыстых, распрацоўваюцца пытаньні мэтодыкі прапаганды, узмацняецца організацыйнае кіраўніцтва пытаньнямі прапаганды.

Агітацыя-ж у яе організованым выглядзе застаецца, як-бы на задворках „у бяспрытульным становішчы". У некаторых колах КПБ яшчэ і да гэтага часу існуюць неправільныя адносіны да агітацыйнае работы, ня гледзячы на тое, што XIII-ы зьезд УсеКП(б) даў зусім ясную дырэктыву:

> ...„ у першую чаргу неабходна разьвярнуць масавую політычную агітацыйную работу" (XIII-ы зьезд УсеКП(б).

Недаацэнка некаторымі таварышамі ролі агітацыі ў сучасных умовах вынікае ня толькі з процівапастаўленьня практычнасьці будаўнічай работы—агітацыйнай рабоце, але тлумачыцца таксама і недахопамі нашае агітацыі.

Мы маем цэлы шэраг выпадкаў, калі культурна і політычна вырасшыя рабоча-сялянскія масы не атрымоўваюць задавальненьня ад тае агітацыі, якую мы зараз вядзем. Аднымі словамі „Прэч міжнародную буржуазію, няхай жыве сусьветная пролетарская рэвалюцыя"—цяпер масы задаволіць нельга. Агітатар павінен паказаць масам, што рабіць, як рабіць—як практычна будаваць сацыялізм.

> ...„Кожны агітатар павінен быць дзяржаўным кіраўніком, кіраўніком усіх сялян і рабочых у справе эканамічнага будаўніцтва" (Ленін, том XVIII, ч. II, ст. 185).

Нельга, на падставе таго, што маецца шэраг недахопаў у нашай агітацыі, якія неабходна зьліквідаваць,—недаацэніваць само значэньне агітацыі. Побач з узмацненьнем прапаганды і агітацыі павінна знайсьці належнае мейсца ў сыстэме партыйнай работы.

ЦК КП(б)Б у сакавіку 1927 года абгаварваючы пытаньні масавае работы прыняў цэлы шэраг дырэктыў і па пытаньням агітацыйнае работы партыі, падцьвердзіў гэтым самым усю важнасьць і асобае значэньне агітацыі ў справе ўзмацненьня сувязі партыі з шырокімі масамі працоўных і ўцягненьне апошніх у практычную работу па ажыцьцяўленьню лёзунгаў партыі.

Што-ж нам кажа практыка выкананьня дырэктыў ЦК КП(б)Б па разгортваньню агітацыйнае работы нізавымі партыйнымі організацыямі.

Пленум ЦК КП(б)Б (сакавік 1927 г.) па пытаньню масавае работы партячэйкі кажа наступнае:

> ...„Накіраваць работу ячэек у бок практычнай падрыхтоўкі сяброў партыі да работы сярод беспартыйных мас, шляхам своечасовай пастаноўкі і абгаварэньня важнейшых задач партыі, а таксама пытаньняў жыцьця прадпрыемства".

Матэрыялы абсьледаваньня агітацыйнае работы партыйных ячэек пацьвярджаюць, што гэта дырэктыва сакавіковага Пленуму ЦК КП(б)Б да гэтага часу застаецца ўсё яшчэ ня выкананай.

Наступныя факты практыкі разгортваньня масавае агітацыйнае работы ў нізавых партыйных організацыях гаворыць аб гэтым:

> ...„Пытаньні рацыяналізацыі вытворчасьці, рэжыму эканоміі, зьніжэньня цэн у Дабрускай фабрычнай ячэйцы, *як самастойныя пытаньні* на агульных сходах *не стаялі*,

> У выніку слабой прапрацоўкі масавае працы, паасобныя практычныя пытаньні, як па рацыяналізацыі вытворчасьці, зьніжэньні сабекошту і г. д., якія стаялі на сходах цэхавых ячэек *не атрымалі даволі поўнага асьвятленьня і добра прапрацаваных вырашэньняў* (з матэрыялаў абсьледваньня Добрускай фабрыкі „Герой труда“).

У выніку такой пастаноўкі пытаньняў агітацыйнае работы, у пастановах вынесеных ячэйкамі, наглядаецца агульнасьць формулёвак, і канкрэтнасьць, і комуністыя вельмі слаба орыентуюцца ў тых задачах, якія стаяць перад данымі ячэйкамі ў галіне практычнага ажыцьцяўленьня чарговых лёзунгаў партыі. Так напрыклад:

> „Агульны сход мэханічнага цэху, заслухаўшы даклад заводакіраўніцтва аб рацыяналізацыі вытворчасьці, зьніжэньні сабекошту, рэжыме эканоміі, вынес наступную пастанову: Даклад заводакіраўніцтва *прыняць да ведама*;—у зьвязку з маючымся быць спыненьнем, членам партыі зьвярнуць падвойную ўвагу на важнасьць рамонту і на „рацыянальнае выкарыстаньне кваліфікаваных рабочых“ (з матэрыялаў абсьледаваньня Дабрускай фабрыкі „Герой труда“).

Разам з выпадкамі неправільнага разуменьня сутнасьці задач агітацыі ў бягучы пэрыяд, адсутнасьці гібкасьці ў працы, і няўменьнем увязаць агульна-партыйнае пастановы з мясцовай заводзкай практыкай ёсьць такія прыклады пастаноўкі агітацыйнае работы, якія заслугоўваюць *шырокага іх заахвочваньня*.

Падаю некаторыя з іх:

> „За апошнія месяцы ўся парторганізацыя галоўных майстэрань прапрацавала пытаньне рэжыму эканоміі, рацыяналізацыі вытворчасьці, зьніжэньня сабекошту ў іх *канкрэтнай* пастаноўцы. Пры заслухоўваньні гэтага дакладу, ячэйкі падыходзілі да масавае працы не з агульнага боку, а *конкрэтна* разьбіралі асноўныя пытаньні масавае працы на даны пэрыяд часу.
>
> Паасобна гэтыя пытаньні прапрацоўваліся партыйным актывам, зьвенпарторгамі індывідуаламі-агітатарамі і на занятках гуртка агітатараў. З актывам даныя пытаньні прапрацоўваліся ня толькі па *зьмесьце*, але і ў галіне *мэтодыкі* правядзеньня даных пытаньняў сярод беспартыйных рабочых“. (З матэрыялаў абсьледаваньня ячэйкі галоўных Гомельскіх майстэрань).

Такі падыход да разгортваньня агітацыйнае работы, увязка яе з практычнымі мерапрыемствамі, якія праводзяцца на прадпрыемстве дапамагаюць пашырэньню актыўнасьці камуністых, абагачэньню зьместу працы і ўсё большаму ўцягненьню рабочых мас у соцыялістычнае будаўніцтва.

Аналіз матэрыялаў мясцовых парторганізацый і асабістыя назіраньні кажуць аб тым, што ў масавай агітацыйнай рабоце маюцца сур'ёзныя недахопы, якія ў асноўным зводзяцца да наступнага:

а) у штодзёнай працы ячэек недастаткова разгорнута работа па растлумачэньню ў масах конкрэтных задач партыі і асабліва слабая гэтая праца ў вёсцы;

б) разрыў паміж агітацыяй і практычным будаўніцтвам, выяўляецца хоць-бы ў тым, што агітацыя згрупоўваецца галоўным чынам навокал кампаніі, а пытаньні гаспадарчага будаўніцтва праходзяць ведамственым шляхам без мобілізацыі навокал іх садзейнічаньня шырокіх мас.

в) слабае вывучэньне і выхаваньне новых кадраў актыву і зусім недастатковае выкарыстаньне ў агітацыі існуючага актыву грамадзкіх організацый, профсаюзных, коопэрацыйных і савецкіх органаў слабая падрыхтоўка агітатараў і дапамога ім;

г) справаздачнасьць савецкіх, гаспадарчых, коопэрацыйных і профэсыянальных органаў перад масамі аб выкананьні пастаноў прынятых раней агульнымі сходамі рабочых і сялян практыкуецца як агульнае правіла, вельмі слаба.

ЦК КП(б)Б падагульваючы практыку агітацыйнае работы нізавых партыйных організацый, прызнае што:

> „Пры ўсіх сваіх дасягненьнях агітацыйная праца ў даны момант не зьяўляецца яшчэ досыць моцнаю галіною ўсяе сыстэмы партыйнае працы і далёка ад тэй яе пастаноўкі, якая намечана пастановамі Ўсебеларускае агітпропнарады мін. году, ЦК УсеКП(б) і ЦК КПБ, аб пастаноўцы масавае працы“ (пастанова ЦК КПБ ад 12-IX 1927 г.).

Вызначаючы асноўныя лініі зьместу агітацыі на бліжэйшы пэрыяд часу ЦК КП(б)Б у тэй-жа пастанове зазнача, што:

> „У мэтах ажыцьцяўленьня органічнай сувязі агітацыі з усім практычным будаўніцтвам соцыялізму. Агітпропы павінны зьверху да нізу шчыльна падыйсьці да практычных задач Саветаў, коопэрацыі, профсаюзаў, гаспадарчых органаў і г. д. і паставіць перад апошнімі пытаньні аб арганізацыі іх грамадзка-растлумачыцельнай працы ў масах (справаздачнасьць дэпутатаў саветаў, крамных камісій, профсаюзаў і г. д.)“.

Гэта значыць, бліжэй да практычных пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва, бліжэй да канкрэтнай экономікі прадпрыемства альбо вёскі, бліжэй да плянаў працы саветаў, коопэратываў, профорганаў, і іншых,— і высьвятленьню перад масамі вынікаў іх выкананьня, аднак, не прыніжаючы, ня смазваючы агульных пэрспэктыў соцыялістычнага будаўніцтва і міжнароднае пролетарскае рэвалюцыі.

Цікава прасачыць суадносіны пытаньняў з мясцовага жыцьця і агульна-політычнага характару ў парадку дня партыйных сходаў і зацікаўленасьць імі з боку членаў партыі. Матэрыялы абсьледаваньня масава-агітацыйнае работы ў некаторых ячэйках Віцебскае акругі паказываюць, што на сходах ячэек ставіліся пытаньні як агульна-саюзнага, так і мясцовага значэньня, але пры гэтым:

> „Як агульнае правіла, актыўнасьць партыйцаў як на сходах агульна-заводзкага колектыву, так і цэхячэек значна большая пры абгаварэньні пытаньняў мясцовага характару і галоўным чынам гаспадарчых і профэсыянальных, чымся пры абгаварэньні пытаньняў агульна-партыйнага і політычнага характару.

Дабіцца таго, каб ячэйкі своечасова ставілі найбольш важныя і гострыя пытаньні партыйнага жыцьця на сваё абгаварэньне і правільна ўвязвалі агульна-політычныя дырэктывы партыі з штодзённаю практычнаю работаю на сваім прадпрыемстве—гэта адна з важнейшых задач партыйных ячэек на бліжэйшы пэрыяд часу.

Своечасовасьць і якасьць інформацыі як па пытаньням агульна-партыйнага значэньня, так і мясцовых пытаньняў мае надзвычайна важнае і рашаючае значэньне ў уменьні ячэйкі ў час і правільна стаць на чале рабочых, быць іх кіраўніком—растлумачыць сутнасьць падзей, не спалохацца не апынуцца збоку.

Некаторыя ячэйкі такія пытаньня, як разрыў з Англіяй, падзеі ў Кітаі, абмяркоўвалі са значным спазьненьнем і часамі беспартыйныя кваліфікаваныя рабочыя былі лепш інформаваныя ў паасобных пытаньнях чым комуністыя.

„Комуністы ў цэху часамі быў менш інформаваны, чым беспартыйны. Можна было спаткаць комуністага, які з прычыны перагружанасьці ня мог чытаць газэт і беспартыйнага рабочага, асабліва высокае кваліфікацыі, які мае вялікую магчымасьць з газэт сачыць за разгортваньнем міжнародных падзей“ (з матэрыялаў абсьледваньня ячэек у Гомельскай акрузе).

Па мясцовых пытаньнях часамі ячэйкі таксама не заўсёды добра інфармованы. У шэрагу выпадкаў маюць месца такія факты, калі ня толькі нізавы партактыў і комуністыя, але нават члены Бюро ячэйкі, на чале з Сакратаром атрымліваюць інформацыю аб становішчы свайго прадпрыемства толькі з дакладаў комуністычнае часткі заводакіраўніцтва на пасяджэньнях Бюро ячэйкі.

„Нізавыя партыйцы скардзяцца на тое, што часта вышэйшыя ворганы праводзяць мерапрыемствы, якія непасрэдна закранаюць працу і быт рабочых без своечасовай папярэдняй інформацыі нізавых ячэек аб гэтых мерапрыемствах“. З гэтае прычыны заводзкім комуністым часамі прыходзіцца абараняць перад рабочымі мерапрыемствы, у мэтазгоднасьці якіх яны самі ня ўпэўнены. Гэта адбіваецца на аўтарытэце ячэек і паасобных комуністых (з матэрыялаў абсьледваньня Добрускай фабрыкі „Герой труда“).

Трэба сказаць, што ў пастаноўцы інформацыі вялікую ролю іграе і тое, што паасобныя выступленьні перад комуністымі бываюць часта ня зусім пісьменнымі, асьвядомленымі. Такія напрыклад, заявы: „Макданальд—яры консэрватар“, „на чале ангельскага ўраду стаіць Томас“—ня могуць дапамагаць правільнаму разуменьню сутнасьці падзей, якія зараз адбываюцца.

Актыўнасьць членаў партыі бясспрэчна павялічылася, пры чым, унутры ячэйкі яна праяўляецца больш, чым у выступленьнях на рабочых сходах, вытворчых нарадах і г. д. Праўда, унутры ячэйкі больш за ўсё выступае актыў, але апошні пэрыод дае даныя аб павялічэньні колькасьці выступленьняў радавых комуністых. За тое на рабочых сходах комуністыя часамі не знаходзяць правільнае лініі свайго павядзеньня і слаба ўдзельнічаюць ў абгаварэньні пытаньняў.

„Невыстарчальны ўдзел партыйных мас у масавай працы на прадпрыемствах для значнае яе часткі тлумачыцца не абыякімі адносінамі да яе, а невыстарчальнаю падрыхтаванасьцю да растлумачэньня пытаньняў з політычнага і гаспадарчага жыцьця, якімі цікавяцца беспартыйныя рабочыя“. (З матэрыялаў абсьледваньня ячэек Менскае акругі).

Тут мы маем справу з ня зусім добра пастаўленаю, яшчэ растлумачваючаю працаю ўнутры партыі. Унутры-партыйная дэмократыя, якая дала ўжо шэраг станоўчых момантаў па ажыўленьні партыйнага жыцьця яшчэ не цалкам, ня ўсюды і ня ўсімі досыць усьвядомлена.

Наглядаецца хвасьцізм паасобных членаў партыі; гэта тлумачыцца ня толькі ня вытрыманасьцю таго ці іншага члена партыі, але і тым, што гэтыя комуністы часта невыстарчальна інфармованы, нявыстарчальна ўявіў сабе, як трэба трымацца сярод беспартыйных рабочых.

Не малое значэньне ў пастаноўцы ўнутры-партыйнае масавае працы мае правільная організацыя нізавога партыйнага актыву і пастаноўка працы з ім.

Па гэтым пытаньні Пленум ЦК КП(б)Б у сакавіку даў досыць выразную дырэктыву:

> „Дзеля паляпшэньня ўсяе масавае працы неабходна ў большай меры ўзьняць політычны ўзровень ячэйковага актыву (цэхоргаў, групоргаў, індывідуалаў, апоргаў, жаноргаў) зьвярнуўшы сур'ёзную ўвагу на сыстэматычнае інструктаваньне і інформаваньне іх па важнейшых пытаньнях жыцьця і політыкі партыі, а таксама практычных пытаньнях жыцьця.

Гэта дырэктыва ЦК КП(б)Б да гэтага часу ў большасьці выпадкова застаецца ўсё яшчэ нявыкананай. Ва ўсіх ячэйках ёсьць актыў, але сыстэматычнае працы па павышэньню яго політычнае кваліфікацыі, як правіла не праводзіцца.

Партыя робіць усё магчымае, каб аслабіць супярэчнасьці інтарэсаў паасобных груп рабочых з агульна-клясавымі інтарэсамі пролетарыяту. Але паасобныя праяўленьні гэтых супярэчнасьцяй будуць мець месца. Задача партыйцаў даваць адпор гэтым адсталым цэхавым настроям, задача партыйных організацый—згуртаваць вакол сябе ўсё больш шырокі рабочы актыў на прадпрыемстве, дасягнуць усьведамленьня гэтае дырэктывы партыі ўсёю рабочаю масаю, каб сама рабочая маса была зацікаўлена і ўдзельнічала ў правядзеньні рацыяналізацыі вытворчасьці.

А дзеля гэтага перш за ўсё, неабходна пры пастаноўцы і абгаварэньні розных пытаньняў на ячэйковых сходах ставіць задачу практычнае падрыхтоўкі партыйнага актыву і радавых членаў партыі да працы сярод беспартыйных мас, каб члены партыі маглі своечасова даць правільныя растлумачэньні па пытаньнях, якія найбольш закранаюць і цікавяць рабочых.

Улічваючы неабходнасьць больш глыбокай пастаноўкі растлумачваючае працы партыі і правядзеньня яе сярод шырокіх пластоў рабочае клясы і сялянства. Пленум ЦК КП(б)Б у сакавіку высунуў перад партыйнымі організацыямі задачу:

> „Сканцэнтраваць увагу на організацыі сыстэматычнае групавое і індывідуальнае агітацыі, зьвярнуўшы сур'ёзьнейшую ўвагу, асабліва на буйных прадпрыемствах, на працу агітколектываў, гурткоў агітатараў, усямерна высоўваючы агітатараў—рабочых і работніц ад варштату, безадкладна пачаўшы вывучэньне і падлік іх працы, дапамагаючы ім у штодзённай працы".

Аднак, ня гледзячы на гэтыя дырэктывы аб групавой і індывідуальнай агітацыі, гэта праца яшчэ да гэтага часу не займае таго месца ў сыстэме партыйнае працы, якое ёй вызначаецца пастановамі партыі.

У вялізарнай большасьці выпадкаў групавая агітацыя не аформлена, як асобны від агітацыйнае працы, а праводзіцца ад выпадка да выпадку. Адсутнічае прадуманая сыстэма плянавасьць і ўвязка групавое агітацыі з другімі відамі агітацыі і з плянам усяе працы ячэйкі.

Зьмест групавое агітацыі далёка ня ўсюды і не заўсёды будуецца на аснове падліку запытаў і настрояў беспартыйнае рабочае масы, мэтады і формы часамі не прыстасованы да рознага культурнага і політычнага ўзроўня розных груп і праслоек сярод рабочых.

Аб тым, што існуе пастанова ЦК КП(б)Б аб організацыі на прадпрыемствах гурткоў агітатараў, якія павінны быць асноўнаю формаю

падрыхтоўкі рабочых-агітатараў і падвышэньня кваліфікацыі існуючых агітатараў, некаторыя нізавыя партыйныя організацыі ўжо забыліся.

Усе гэтыя хібы тлумачацца, галоўным чынам, тым, што пытаньні організацыі групавое агітацыі знаходзяцца па-за ўвагаю мясцовых партыйных організацый. Ячэйкі гэтаю працаю кіруюць слаба. Няма патрэбнага ўсьвядомленьня ўсяе важнасьці і практычнае неабходнасьці правядзеньня групавое агітацыі.

Вось чаму ЦК КП(б)Б палічыў неабходным, на падставе матэрыялаў абсьледваньня, зазначыць партыйным організацыям на неабходнасьць больш рашуча падыйсьці да пытаньня разгортваньня групавое і індывідуальнае агітацыі і

> „організацыі гурткоў агітатараў і ажыцьцяўленьня кіраўніцтва імі, праяўляючы большую гібкасьць у выбары форм і мэтадаў працы з агітатарамі". (Пастанова ЦК КП(б)Б ад 12 верасьня 1927 году).

Шэраг паказаных недахопаў у пастаноўцы агітацыйнае працы нізавых партыйных організацый не зьяўляюцца агульнымі для ўсіх організацый, але зазначэньні на гэтыя хібы патрэбны для таго, каб іх не рабілі іншыя організацыі і ячэйкі.

Наступіўшы 1927-28 год павінен быць годам рашучага, настойлівага ажыцьцяўленьня дырэктыў партыі ў справе разгортваньня і якаснага паляпшэньня агітацыйнае працы КП(б)Б.

---

# НА МЯСЦОХ

М. Шапіра

## Сельпарторганізатары

I

Кароткае паведамленьне ў „Правде" ад ліпеня м-ца гавора, што Маскоўскі Камітэт УсеКП(б) пастанавіў увесьці па Маскоўскай губэрні Інстытут сельпарторганізатараў. Нажаль у нашым друку вельмі мала матар'ялаў пад'агульваючых вопыт, які ўжо маецца ў гэтай працы. Паколькі ў маленькай Крупскай раённай організацыі (Аршанская акруга) інстытут сельпарторганізатараў уведзен ужо з сакавіка м-ца 1927 году і маецца ўжо некаторы вопыт, лічу нялішнім падзяліцца з гэтым вопытам на старонках „Бальшавіка Беларусі".

II

Увядзеньне Інстытуту сельоргаў павінна ўпарадкаваць і організацыйна аформіць масавую і організацыйную працу на вёсцы. Паглядзім, якое было становішча з гэтай справай да ўвядзеньня сельоргаў.

Пры правядзеньні тых ці іншых кампаній вылучаліся ячэйкамі або Райкомам дакладчыкі. Кадр гэтых дакладчыкаў складаўся з раённага, ці ячэйковага актыву.

Пасылка дакладчыкаў кожны раз у другую вёску прыводзіла да таго, што пасылаемыя недастаткова адчувалі адказнасьць за сваю справу. Адбарабаніў даклад, паведаміў Райком і... супакоіўся. Адсюль галоўны корань тых „абяцанак", якія даваліся дакладчыкамі і якія падрывалі прыязьнь сялянства да партыі і Савецкай улады. „Наабяцалі, пагаварылі і паехалі"... Такую характэрыстыку давала сялянская маса гэтым таварышам.

Кадр актыву ў р-не і ў ячэйках цякучы, непастаянны. Сыстэматычнай падрыхтоўкі да агітацыйнай працы нябыло і зразумела, што якасьць агітацыйнай працы была даволі слабая. Апрача ўсяго гэтага амаль зусім не праводзілася сыстэматычнай організацыйнай працы, як напрыклад: выяўленьне і прыцягваньне беспартыйнага актыву, распаўсюджваньне газэт і г. д.

Комуністы, якія жывуць непасрэдна ў вёсках і працуюць з сахой, мала прыцягваліся да агітацыйнай працы і наогул не адчувалі сябе абязанымі правесьці тую ці іншую пэўную, практычную працу.

Увядзеньне сельоргаў павінна было ў асноўным зьнішчыць усе гэтыя недахопы.

III

Як сродак часткова паляпшаючую організацыйную пастанову масавай працы на вёсцы, мы пачалі практыкаваць замацаваньне агітатараў на пэўны час (2-3 м-цы) да пэўнай вёскі для правядзеньня ўсіх агіткам-

паніяў, для павышэчьня якасьці агітпрацы; перад правядзеньнем важнейшых кампаній рабіліся інструктыўныя даклады. Хаця-ж гэта і паляпшала працу, але далёка невыстарчальна. Асабліва яскрава арганізацыйныя недахопы масавай працы выявіліся пры перавыбарах сельсаветаў. Вельмі цяжка было дабіцца посьпехаў пры перавыбарах з прычыны неналаджанасьці і неарганізаванасьці масавай працы.

На 1-ай нарадзе сэкратароў ячэек пасьля перавыбараў было паднята пытаньне аб увядзеньні Інстытуту сельпарторганізатараў, тут-жа былі намечаны асновы палажэньня аб сельоргах.

17-га лютага на пасяджэньні Бюро Райкому было выпрацавана і зацьверджана наступнае часовае палажэньне аб сельпарторганізатарах:

Часовае палажэньне аб сельпарторганізатарах:

1) Для пашырэньня і паглыбленьня партыйнага ўплыву на шырокія масы вёскі, для выяўленьня беспартыйнага актыву з срады батракоў, беднякоў і лепшай часткі серадняқоў, для правядзеньня растлумачальнай працы ў сялянскай масе, парт'ячэйкамі да больш буйных населеных нунктаў, якія абслугоўваюцца ячэйкай (апрача месца знаходжаньня самой ячэйкі), прымацоўваюцца вылучаныя ячэйкай партыйцы ў якасьці сельпарторганізатараў.

2) Сельпарторганізатарамі могуць вылучацца члены ці кандыдаты партыі, якія знаюць умовы жыцьця вёскі і якія маюць элемэнтарныя палітычныя веды ў абхваце (прыблізна) школы перасоўкі 1-й ступені.

Увага: комсамольцы не партыйцы ня могуць вылучацца ў якасьці сельоргаў.

3) Для дапамогі ў працы сельорга ячэйкай вылучаюцца з тых, якія жывуць блізка ці ў самай вёсцы куды прымацаваны сельорг, менш разьвітыя партыйцы, комсамольскія актывісты і беспартыйныя, — прынятыя ячэйкай у партыю, але яшчэ не зацьверджаныя вышэйшымі парторганамі.

4) У абавязкі сельпарторганізатара ўходзе:

а) Праводзіць агульна-сялянскія сходы не радзей разу ў месяц, дзе высьвятляюць пытаньні бягучага жыцьця, а таксама ўсіх чарговых кампаній па заданьнях ячэйкі і па сваёй ініцыятыве.

б) Праводзіць сходы беднаты, увязваючы іх з чарговымі кампаніямі (перавыбары с-с, вучот аб'ектаў абкладаньня, с. г. падатак пасеў-кампанія і г. д.) па заданьням ячэйкі, а таксама выяўляць усе важнейшыя практычныя пытаньні данай вёскі і ў выпадку патрэбы праводзіць сходы беднаты або агульна-сялянскія сходы па выяўленых пытаньнях (земляўпарадкаваньне, лясы мясцовага значэньня, разьдзел лугоў і г. д.).

в) Распаўсюджваць газэты і часопісі і арганізоўваць гурткі „сяброў газэты“.

г) Пашыраць і вербаваць колектыўных падпішчыкаў часопісі „Работніца і сялянка“ і арганізоўваць гурткі жанчын для чыткі гэтай часопісі і для самаадукацыі.

д) Дапамагаць арганізацыі чырвонага кутку ў сваёй вёсцы, выклікаючы ініцыятыву насельніцтва ў справе забясьпечаньня кутка памяшканьнем, выпіскай газэт і часопісаў для кутка і памагае арганізаванаму кутку атрымаць бібліатэку-перасоўку з бліжэйшай хаты-чытальні ці раённай бібліатэкі.

е) Весьці сьпісачны вучот беспартыйнага актыву, даючы ячэйцы характэрыстыку актывіста ў выпадку патрэбы.

ж) Уцягваць у актыўную працу ўвесь актыў вёскі, зварочваючы асаблівую ўвагу на разумную нагрузку грамадзкай працай, актыўных жанчын (дэлегатак і не дэлегатак), дэмабілізаваных чырвонаармейцаў і пераменьнікаў.

5) Усю сваю працу сельорг павінен пабудаваць так'м чынам, каб ён апіраўся на актыў, які маецца, не канкуруючы з імі ў працы, а накіроўваючы яго па правідловай пуцявіне.

6) Сельпарторганізатар ні ў якім разе не павінен і ня мае ніякага права браць на сябе абавязкі тэй ці іншай пасады ў вёсцы (члена савета, упаўнаважанага па лясох мясцовага значэньня, сельвыканаўцы і г. д.). У выпадку заўвагі недахопаў або злоўжываньняў у працы тых ці іншых урадовых асоб, сельорг паведамляе ў ячэйку для прыняцьця крокаў праз фракцыю Савета ці праз Райком.

7) Вучот працы сельорга вядзецца шляхам сыстэматычнага запісу сваёй працы ў сшытак. Аб спосабах вучоту Райком дае спэцыяльную інструкцыю.

Гэта часовае палажэньне ўскладае, як мы бачым, на сельпарторганізатараў вельмі вялікія задачы.

Прайшло некалькі месяцаў, пакуль аснаўная частка сельоргаў уразумела гэта палажэньне і пачала працаваць згодна з палажэньнем.

Былі вялікія і заслугоўваючыя ўвагі скаргі сельоргаў на немагчымасьць і цяжкасьць справіцца аднаму сельоргу з такой працай, паколькі частка сельоргаў выконвае якую-небудзь пастаянную працу і апрача таго, некаторыя маюць яшчэ дабавачную партнагрузку.

Адзіным выхадам з такога становішча мы выбралі такі:

Параіць сельоргу налегчы на выкананьне 3-га і 5-га пункту палажэньня. Гэта пункты аб памоцніках сельоргаў і аб прыцягненьні да працы беспартыйнага актыву, пры пэўнай увазе змогуць значна аблягчыць працу сельорга, зводзячы яе потым да працы па накіроўваньні на правідловы шлях дзейнасьці мясцовага сялянскага актыву.

## IV

17-га верасьня 1927 г. на пашыраным Пленуме Крупскага Райкому абгаварвалася пытаньне: „Папярэднія вынікі працы сельпарторганізатараў“.

Перад пастаноўкай гэтага дакладу, былі абсьледаваны працы сельоргаў у большасьці вясковых ячэек раёну (усіх вясковых ячэек па р-ну 8—абсьледавана 5).

Абсьледаваньне ахапіла пэрыяд з 1-га красавіка па 1-ае верасьня 1927 г. Адсюль, зразумела, што праца, якая адбывалася ў умовах летняга часу і зьяўлялася новай працай, не магла даць асабліва шырокіх вынікаў, але ўсё-ж праведзеная праца ў параўнаньні з мінулым летам у райжаноарганізацыі паказвае, што гэта форма працы прывіваецца і абяцае вельмі многае ў будучым.

Усяго сельпарторганізатараў па Крупскаму р-ну ў 8-мі ячэйках вылучана—38 чалавек, абслугоўваюць яны 42 вёскі з агульным лікам двароў—2356.

Сельоргі правялі 124 агульна-сялянскія сходы, на сходах прысутнічала 5828 чал. Абгаварваліся наступныя пытаньні:

1) Аб сьвяце 1-га мая, 2) аб вясеньняй сел.-гас. кампаніі, 3) аб сельгаспадатку, 4) аб дню леса, 5) аб міжнародным становішчы, 6) аб становішчы ў Польшчы, 7) аб кітайскай рэволюцыі, 8) аб касах ашчаднасьці і сялянскім займе.

Апрача таго абгаварваліся пытаньні, якія датычуцца толькі асобных вёсак, напрыклад: аб патравах, аб падзеле лугоў і зямлі, што перашлі з ляснога фонду ў зямельны і г. д.

Трэба адзначыць, што якасьць растлумачальнай працы была даволі высокая і ў многіх выпадках давала добрыя практычныя вынікі, аб чым больш падрабязна застанаўлюся ніжэй.

## V

Праца сярод беднаты таксама не засталася бяз увагі сельоргаў. Праведзена за гэты час 32 сходы беднаты, дзе прымала ўдзел 424 чал. беднякоў і батракоў і 312 серадьнякоў. Абгавораны пытаньні: вясеньняя с. г. кампанія, аб разьмеркаваньні скідачнага фонду па с. г. налогу і некаторыя мясцовыя вясковыя пытаньні.

Праведзена было некалькі грамадзкіх запашак зямлі ў сем'ях чырвонаармейцаў і ў другіх беднякоў, абгаварвалася праца селькомаў і разьмеркаваньне семпазыкі і інш. пытаньні, зьвязаныя з гэтай кампаніяй.

У сувязі з с. г. кампаніяй праведзена значная праца сярод беднаты. Сьпіскі, якія належаць пытаньням аслабаненьню па скідачнаму фонду, абгаварываліся вельмі актыўна на сходах беднаты, прычым было дадзена многа каштоўных указаньняў аб тым, што той ці іншы можа ці ня можа плаціць; было шмат выпадкаў, калі бедната ўказывала дзе, у якой

гаспадарцы схаваны ад вучоту об'екты аблажэньня. У выніку гэтай працы выяўлена больш зямлі і скаціны, чым у мінулым годзе і скідачны фонд разьмяркован так, што забясьпечаны правідловыя даведкі аб платаздольнасьці таго ці іншага бедняка.

Сельоргі, праводзячы гэту працу, падрыхтавалі матэрыял для груп беднаты і комфракцый пры с/с, якія ў сваю чаргу падрыхтавалі для с/с і РВК'а больш удасканаленыя матэрыялы вучоту па сельгасналогу.

Адначасна з гэтым на сходах беднаты падрыхтоўваліся кандыдаты ў сельскія налагавыя камісіі з беднаты і лепшых сераднякоў.

У некаторых вёсках стаяла пытаньне аб часовым разьмеркаваньні зямлі, якая перашла з лесфонду ў зямельны.

Гэта мае вельмі важнае значэньне, так як часова дадзеная зямля з лесфонду застаецца ў карыстальніка на цэлы шэраг гадоў (да землеўпарадкаваньня). У мінулым годзе было некалькі выпадкаў, калі такая зямля разьмяркоўвалася пораўну паміж усімі сялянамі, якая прымыкае да гэтай зямлі, вёскі.

Былі і выпадкі, калі ў першую чаргу захаплялі гэту зямлю больш заможныя. Бедната скардзілася. Пры дапамозе сельоргаў гэты момант быў больш падрабязна выяўлены і разьмеркаваньне зямлі праходзіла ўжо лепш.

У першую чаргу атрымалі малазямельныя, безьзямельныя, а з астачы прырэзвалі тым, хто больш патрабуе.

## VI

Асаблівай увагі заслугоўвае тая практычная праца, якая праводзіцца сельоргамі, бо тут мы бачым зьдзяйсьненьне тэй парт. дырэктывы, па якой камуніст у вёсцы павінен стаць павадыром тых пачынаньняў, якія пасоўваюць уперад сялянскую гаспадарку і нішчаць хворыя бакі вясковага жыцьця.

Трэба зазначыць, што практычная праца больш усяго праводзілася тымі сельоргамі, якія прымацованы да тых вёсак, дзе яны жывуць.

Гэтакіх маецца па раёну—22 (з агульнага ліку—38).

Прыклады практычнай працы даволі яскравы. Так сельорг Бобрскай ячэйкі, вёскі Красноўка арганізаваў машыннае Т-ва з беднякоў і серадняков, сабраў паі, выбран кіраўнікам Т-ва і працуе актыўна.

Ухвальская ячэйка паставіла перад сваімі сельоргамі задачу змагацца з патравамі, шляхам самадзейнасьці самога сялянства.

Было раней так. Пачынаючы з вясны і да восені с/с, РВК і суд закідываліся скаргамі на патравы. Сельоргі паставілі пытаньне аб барацьбе з патравамі на вясковых сходках і кіруючыся ўмовамі гэтай вёскі выносілі свае прапановы: выгарадзіць агульнымі сіламі тыя вучасткі, якія больш цярпелі ад патраў, наняць стоража, устанавіць дзяжурствы і г. д.

Прапановы сельоргаў з ахвотай прымаліся і праводзіліся ў жыцьцё. Вынік: зьвядзеньне скаргаў на патравы да мінімума і падзяка сялянства за тое, што камуністы дапамаглі выжыць спрэчкі і бойкі ў вёсцы.

У 9-ці вёсках арганізаваны за сродкі сялян чырвоныя куткі і некаторыя з іх разгортваюць працу зусім ня кепска.

У 8-мі сельоргаў закладзены паказальныя вучасткі і агароды. Сяляне ўсёй вёскі і нават другіх вёсак прыходзяць і вучацца паляпшаць сваю гаспадарку. Некаторыя з гэтых 8-мі сельоргаў вядуць паказальнае кармленьне скаціны, завялі лепшыя кармушкі і засеў караньплодаў. Сяляне панямногу пераймаюць лепшыя формы вядзеньня гаспадаркі.

Прыбавім к ужо адзначанай практычнай працы правядзеньне зборaў большасьцю сельпарторганізатараў у фонд „Наш адказ Чэмбэрлену“, што да пачатку двухтыднёвіка зьберажэньняў завербавана 8 ўкладчыкаў сялян, і хаця вышэй памянёныя паведамленьні аб праведзенай сельоргамі працы далёка ня поўныя, але ўсё-ж відаць, што ўвядзеньне Інстытуту сельпарторганізатараў вельмі пасунула ўперад партыйную працу сярод сялян па раёну.

## VII

Праводзілася таксама праца сельоргамі па выяўленьню беспартыйнага актыву. Але гэта праца таксама як і распаўсюджваньне газэт і праца сярод сялянак да гэтага часу праводзілася недастаткова. Тлумачыцца гэта тым што праца гэта новая і што працаваць прыходзілася ў летні пэрыяд.

Нешта праведзена і тут, але недастаткова. Выяўлена—76 чал. беспартыйнага актыву і 48 чал. з іх, уцягнена ў актыўную грамадзкую працу ў с/с, у грамадзкіх організацыях і г. д.

Таксама крыху зроблена дзеля збліжэньня ўжо выяўленага актыву к парт. ячэйкам. Праводзілася запрашаньне беспартыйных актывістаў на сходы ячэйкі і 18 чалавек уцягнена ў гурткі самаадукацыі.

Да недахопаў працы трэба аднесьці яшчэ і тое, што ячэйкі вельмі мала зварочвалі ўвагі на працу памоцнікаў сельоргаў. У большасьці выпадкаў яны ня выдзелены цалкам, а ў другіх выпадках і вылучаныя амаль зусім не працавалі. Гэта акалічнасьць, ведама перашкаджала працы самых сельпарторганізатараў. Дзякуючы гэтаму некаторыя сходы беднаты праходзілі без здавальняючай падрыхтоўкі.

Пленум Райкому вельмі падрабязна абгаварыў усе памянёныя і і другія больш дробныя недахопы ў працы сельоргаў. Асабліва падрабязна пленум абгаварыў пытаньне аб падрыхтоўцы сельпарторгаў да іх працы.

## VIII

Падрыхтоўка сельоргаў праводзілася гэткім чынам: на сходах ячэек было пастаўлена пытаньнем павесткі дню растлумачэньне палажэньня аб сельоргах і кожнаму організатару палажэньне было дадзена на рукі.

8-га мая 1927 г. была праведзена райнарада сельпарторгаў, пасьля інструктыўнага даклада аб задачах і мэтадах працы, былі адчынены спрэчкі. у якіх прымалі ўдзел 46% з прысутных. У спрэчках вынікнуў абмен вопытам, у працы абгаварываліся пытаньні далейшай працы па падрыхтоўцы сельоргаў. Таксама быў заслуханы і абгавораны даклад аб мэтодыцы агітатацыі.

Нарада выпрацавала наступныя формы падрыхтоўкі сельоргаў: інструктыўныя даклады на сходах ячэек і штомесячныя куставыя сходы, пры гэтым было намечаны 4 пункты кустовых сходаў.

Практыка паказала, што кустовыя сходы няжыцьцёвы і яны ні разу ня зьбіраліся. Уся падрыхтоўка сельоргаў заключалася ў заслуханьні інструктыўных дакладаў на сходах ячэек. Некаторыя дапаўнялі гэта самастойнай прапрацоўкай пытаньняў па газэтах і брашурах.

Пленум Райкому лічыць, што гэта падрыхтоўка нездавальняючая і выпрацаваў наступны плян на далейшы час.

Пры кожнай ячэйцы організуецца агітгрупа, якая зьбіраецца ня менш разу ў месяц і па меры патрэбы часьцей.

У агітгрупу ўключаюцца сельпарторганізаторы, іх памоцнікі, працаўнікі с-с, актыўныя настаўнікі і другія, якія актыўна вядуць працу сярод сялянства.

Кіраўніка агітгрупы вызначае ячэйка, пры чым па больш цяжкім пытаньням, там дзе кіраўнік агітгрупы нездавальняюча падрыхтован, выдзяляюцца дакладчыкі з райагітколектыву, які з'організован пры Райкоме з райактыву.

На агітгрупах павінны прапрацоўвацца галоўныя пытаньні, якія разьясьняюцца сялянству і прапрацоўваюцца мэтоды працы сельоргаў, асабліва практычныя.

Для кожнай агітгрупы павіны за сродкі ячэйкі (з 10 проц. адлічэньня сяброўскіх адлікаў і дадатковых збораў сярод удзельнікаў агітгрупы) быць выпісаны часопісі: „Деревенский Коммунист" і „Спутник агитатора".

Акрамя гэтага Пленум прызнаў абавязковай далейшую прапрацоўку пытаньняў у ячэйках і ўзмацненьне самастойнай падрыхтоўчай працы сельоргаў.

## IX

Вучот працы сельоргаў праводзіўся шляхам запісі працы ў сшытак вучоту, прычым кожнаму сельоргу быў дадзены сшытак і інструкцыя па вядзенью вучоту працы.

У сшытку, згодна інструкцыі трэба было запісваць усю праводзімую працу, падмацовывая запісі лічбамі (напр., колькі прысутнічала на сходзе і пры абгаварэньні, колькі пытаньняў задана, колькі выказалася і г. д.) і фактамі (ці організаван чырвоны куток і калі?) сьпіс найболей характэрных пытаньняў і зьмест спрэчак. У канцы сшытка павінен быў вясьціся сьпіс беспартыйнага актыву, забясьпечаны характарыстыкай кожнага актывіста і паказаньнем аб яго практычнай працы.

Трэба зазначыць, што большасьць сельоргаў гэтых паказаньняў не прытрымлівалася. Галоўная прычына гэтаму, гэта тое, што не звярачвалася ўвагі на галоўнае паказаньне інструкцыі па вучоту працы, што сакратар ячэйкі абавязаны штомесячна правяраць запісі і пры гэтым даваць практычныя ўказаньні. Адсюль і недастатковае практычнае кіраўніцтва сельоргамі. Гэта кіраўніцтва выказвалася ў заслухоўваньні на сходах некаторых ячэек і паседжаньнях бюро справаздач сельоргаў. Такіх справаздач за 5 м-цаў было па р-ну заслухана—11, прычым пры гэтым даваліся падрабязныя дырэктывы з паказаньнем, як падходзіць да працы ў данай вёсцы.

Наогул можна адзначыць, што маюцца даволі буйныя недахопы вучоту працы, а гэта прыводзіць, ведама, да таго, што нельга своечасова прымаць крокі да выжываньня недахопаў працы, і да вылучэньня лепшага вопыту працы. Пленум Райкому сьцьвердзіць неабходнасьць строга прытрымлівацца інструкцыі па вучоту і абавязковай штомесячнай праверкі працы сакратарамі ячэек.

## X

У заключэньне трэба адзначыць, што ня гледзячы на аб'ектыўныя цяжкасьці ў працы, як летні пэрыод, малое знаёмства з працай, акрамя гэтага, трэба прыняць пад увагу, што многім сельпарторгам прыходзілася абслугоўваць далёкія, ад свайго месца сталага жыцьця, вёскі, будучы пры гэтым нагружаным сваёй сталай працай і маючы яшчэ і другія партыйныя нагрузкі і даручэньні, ня гледзячы на ўсё гэта маюцца даволі значныя (у маштабе раёну) дасягненьні ў гэтай працы.

За кароткі час свайго існаваньня Інстытут сельпарторганізатараў паказаў сябе, як лепшая форма захапленьня організацыйнай і агітацыйнай працай партыі шырокіх мас сялянства і як добрая практычная (а пры добрай пастаноўцы працы агітгруп) і тэорытычная школа вясковага камуніста. Інстытут сельоргаў лепш дае магчымасьць камуністу ў вёсцы стаць на чале сялянства па разьвязваньню самых неабходных,

жыцьцёвых пытаньняў сялянскага жыцьця, штурхае вясковага камуніста на гэту практычную працу і гэтым самым дапамагае таму, каб кожны вясковы камуніст быў важаком вёскі ў справе колектывізацыі, падняцьці культурнага і палітычнага ўзроўня сялянства. Каротка кажучы дапамагае правядзеньню ў жыцьцё асноўных партыйных дырэктыў.

Адсюль ясна, што ўвядзеньне Інстытуту сельпарторганізатараў пажадана і ў другіх організацыях і пры гэтым неабходнай патрэбай зьяўляецца пашыраны абмен вопытам паміж парторганізацыямі па гэтаму пытаньню.

---

**И. Шаин**

# Лицо производственной партячейки

*(Яч. типографии Полеспечати)*

## Экономическое состояние предприятия

Предприятие за последние пять месяцев находилось в скверном положении. Мы имели большие трудности в финансовом отношении, не было сбыта готовой продукции, в результате чего создалось затоваривание, а нагрузка по цехам почти и не была. Все это ставило вопрос о необходимости принятия соответствующих мер к установлению нормальной работы в предприятии. Отсюда не было иного выхода, как провести определенное с'ужение предприятия. При с'ужении предприятия основная линия заключалась в том, чтобы оставить основной кадр рабочих в предприятии. Это дало возможность оздоровить состояние предприятия.

Как дело обстоит в настоящее время? Замечается общий под'ем в работе. Нагрузка по всем цехам полная. Даже за последний месяц мы имеем повышение производительности труда по всем цехам в следующем виде:

| Цеха | По програм. на чел. в день | Выработок | % % |
|---|---|---|---|
| Наборное . . . | 8,36 | 9,51 | 113,7 |
| Линотип . . . | 38 | 51.1 | 134,4 |
| Машинное . . . | 8,73 | 91,6 | 104,8 |
| Переплетн. . . | 7,4 | 8 | 108,1 |
| Линовальн. . . | 69 | 72 | 104,3 |
| Тетрадн. . . | 3,30 | 3,73 | 112,5 |
| Конвертн. . . | 15,2 | 18,5 | 114,2 |

Недостаток оборотных средств и несвоевременная доставка сырья значительно отражается на работе предприятия в данное время. Соответствующие органы должны на это обратить внимание.

Как обстоит дело с управленческим аппаратом? Мы достигли уменьшения его стоимости на 30%. Аппарат стал в некоторой степени гибче. Но необходимо подчеркнуть, что аппарат и до сего времени в качественном отношении не в достаточной степени на высоте.

Согласно директивам партии мы провели борьбу: за снижение цен, с элементами волокиты и с кумовством.

Что мы достигли в области снижения цен? Об этом говорят следующие данные:

| Отделение: | За 1-ю половину квартал. | По програм. на 1927-28 г. | % % |
|---|---|---|---|
| Наборное . . . | 1.57,4 | 1.10,10 | —30,05 |
| Машинное . . . | 2.15,32 | 1.74,40 | —15.29 |
| Переплетное . . | 1.35,70 | 1.17,80 | —13,19 |
| Тетрадное . . . | 1.11,21 | 1.36,80 | +23,01 |
| Конвертное . . | 1.44,65 | 87,5 | —39,59 |
| Литография . . | 8.80,5 | 6.72,00 | —23,79 |

В процессе работы было выявлено наличие кумовства в бывшем аппарате Гомкниги. Кумовство выразилось в истребовании разных работников из Витебска, с уплатой под'емных, в то время когда надобности в этом не было. Бюро партячейки своевременно на это реагировало и приняло ряд решительных мер.

### Идеологическое состояние ячейки

Постановка вопроса на партсобрании об итогах Августовского пленума ЦК и ЦКК выявило, что у некоторых т. т. имеются неясности по некоторым вопросам в особенности на основе непонимания сущности рационализации, некоторое уравнительное настроение и т. д. Главное внимание ячейки было обращено на правильное понимание задач партии, ошибочность оппозиции, как отход от Ленинизма. До организации кружков партячейка в целом проработала статью Сталина о Китайской революции, статью Рашаля о внутри партийном положении и затем разбили ячейку на три группы для изучения материалов пленума ЦК и ЦКК. Работа кружков и постановка вопросов на партсобрании доказала, что ячейка стоит на правильном Ленинском пути. Понимание текущих задач партии—членами партии усвоено.

Наша задача заключается в том, чтобы и дальше продолжать воспитательную работу в духе решений партии.

### Внутри партийная демократия

Партийная демократия в ячейковой жизни применяется правильно. Основные принципиальные вопросы из жизни ячейки разрешаются ячейкой в целом. Разграничение функций между бюро и общим собранием партячейки—правильны. Растет ли наша активность? ДА—в практическую повседневную работу, которые имеют постоянную нагрузку, вовлечено 71 чл. партии. Кроме этого, в эпизодическую работу было вовлечено 50 человек. Обязанности выполняют не скверно, ибо бюро помогает каждому члену партии в выполнении своей работы.

Комиссионный метод работы в жизни ячейки привился хорошо и облегчает работу бюро и собрания ячейки. Всего комиссий работало—7. В комиссионный метод работы вовлекается значительная часть членов партии. Вместе с тем, имеется не большая часть т. т., которая не имеет партнагрузки по причинам: семейности и безработицы.

Как проходит партдень? Подготовка бюро достаточная. Активность членов партии значительная, ибо основные вопросы из жизни ячейки ставятся на партдне.

Несмотря на это, у нас в прохождении партдня имеется ряд недочетов, которые сводятся к тому, что во время собрания беспрерывно разговаривают, некоторые спаздывают. Активность членов партии растет на основе правильного применения внутри партийной демократии.

### Работа парторгов

Трудность положения предприятия вызвала необходимость более частного инструктирования парторгов по живо-трепещущим вопросам. Несмотря на наличие трудностей парторги оказались на высоте. Парторгами усвоена роль связывающего звена цеха с бюро ячейки, поэтому парторги своевременно информировали бюро ячейки о жизни цеха. На совещаниях парторгов основательно проработали следующие вопросы: а) об усилении притока, б) о настроении рабочих, в) информацию о положении предприятия.

В работе парторгов имеются ряд недочетов, которые сводятся к тому, что слабо вовлекаются б/п. рабочие и служащ. на открытые партдни, недостаточно партийцы группируются вокруг парторга и отдельные парторги недостаточно информируют членов партии по парт. и общим вопросам. Бюро своевременно на это заостряло свое внимание.

### Рост—партячейки

Как мы за это время росли? Подано всего заявлений о приеме 13, о переводе из кандидатов в члены партии—8. Ячейкой и райкомом принято в кандидаты партии—7 человек, а переведены в члены—8 челов. Не утверждено Райкомом 5 по регулировании состава партии. У нас имеется определенное замедление роста по следующим причинам: а) с‘ужение предприятия и отсутствие нагрузки, б) некоторую часть останавливает по религиозным причинам (обрядность), в) споры внутри партии.

Основная и ближайшая задача ячейки заключается в том, чтобы усилить вовлечение б/п. рабочих в партию за счет квалифицированной ее части.

### Партучеба

Провели раз‘яснительную работу по добровольности партучебы в связи с укомплектованием школ партсети. На основе проведенной работы мы достигли вовлечение во все виды партучебы—78 чел., а остальная часть занимается самообразованием (не считая группы агитаторов-пропагандистов).

### Еще раз о некоторых недочетах

У нас имеются ряд членов партии, которые не регулярно платят членские партвзносы за 3 и больше месяцев. Иначе рассматривать это как нарушение партдисциплины—мы не можем. Бюро партячейки приняло ряд мер к регулярной уплате членских партвзносов.

### Цеховая партячейка ф-ки Клары Цеткин

Цехячейка организационно оформилась, цеховые партии проходят живо и проявляется достаточная активность. Цехячейка дает правильное направление работе фабрики Кл. Цеткин под общим руководством бюро партячейки. Перевыборы фабкома прошли организованно при полном активном участии всех рабочих.

### Вопросы профмассовой работы

Формы культмассовой работы за летний период сводились к следующему: проведению бесед во время завтрака на животрепещущие темы, устройству массовых вечеров, литературных читок и т. д. Надо признаться, что формы массовой работы за летний период хорошо привились и участие рабочих было достаточное.

Что касается экономработы—мы имеем за последнее время некоторое оживление, но все же больших реальных результатов еще нет. По линии хозоргана проведены в жизнь следующие предложения экономкомиссии: а) о единообразии табличного набора, б) о саморазборе, в) о чистке наборного цеха от сыпи, г) о пополнении наборного цеха дефектными буквами и линейками.

В работе экономкомиссии имеются целый ряд недочетов, сводящихся к тому, что нет массовости в работе, т. е. рабочая масса слабо вовлечена в работу, также нет достаточной гибкости в работе экономкомис-

сии. Жизнь выдвигает чрезвычайно много вопросов, экономкомиссия и производственные совещания отступают от них. Хозорган должен быть больше заинтересован в работе экономкомиссии.

Общества развернули свою работу в достаточной степени, в особенности это чувствуется в работе о-ва Осоавиахима и Мопр. В их работе имеется определенное содержание. Слабо обстоит дело с о-вом культсмычки.

Фракция фабкома своевременно реагирует на основные вопросы жизни предприятия и директивы партячейки правильно претворяет в жизнь.

---

## Заключение

Идеологически ячейка за это время стала крепче и сильнее. Активность членов партии в результате правильного применения внутри партийной демократии—растет. В ячейке имеется здоровая самокритика, дающая возможность своевременно по большевистски разрешать вопросы. Внутренне за это время мы укрепились. Вес ячейки среди беспартийных рабочих—большой.

Изжитие имеющихся недочетов в работе партячейки составляет основную задачу дальнейшей работы ячейки.

---

Б. Шпітальнік

# Становішча работы ў мястэчках

*(Мазырская акруга)*

Ліпенскі пленум ЦК КПБ зьвярнуў вялікую ўвагу на становішчы мястэчак, даўшы цэлы рад дырэктыў у напрамку большага разьвіцьця работы па паляпшэньню эканомічнага становішча мястэчковага насельніцтва.

Яшчэ ў кастрычніку месяцы 25-году пленум ЦК КПБ адзначыў—*„Работа па паляпшэньню эканомічнага становішча мястэчковага насельніцтва павінна займаць віднейшае мейсца ў працы партыі“.*

Знаходзіліся, напрыклад, „аўтарытэтныя“ людзі, якія гаварылі аб „непрыстасаванасьці мястэчковага насельніцтва да гаспадарчага ўкладу нашае краіны, пацеры пэрспэктыў на будучае ў значнае частцы насельніцтва мястэчку“—тым самым кажучы мы (савецкая ўлада, партыя) ніякай дапамогі аказаць вам ня можам. Такія настроі былі ў свой час у цэлага рада нават і партыйных работнікаў, якія вельмі пэсымістычна глядзелі на ўсе мерапрыемствы, намячаемыя партыяй па лініі падняцьця і адраджэньня мястэчак.

Калі-ж праверыць на справе, дык бачым зусім іншае: дырэктывы партыі атрымалі сваё належнае праламленьне ў практычнай працы партыйных організацый на мясцох і далі адпаведныя вынікі.

Агульную характарыстыку становішча мястэчку магчыма даць наступную: дзякуючы правільна праведзенай рабоце па надзяленьню яўрэяў зямлёй, урэгуляваньню падатковага пытаньня ў мястэчках, каапэрыраваньню саматужнікаў і забесьпячэньню іх крэдытам, прыстасаваньню савецкага апарату да абслугаваньня мястэчковага насельніцтва і ўцягненьню яўрэйскіх працоўных мас у савецкае будаўніцтва—становішча мястэчак значна палепшылася, мястэчкі эканамічна ўзмацніліся. Характэрнай ільлюстрацыяй гэтага росту зьяўляецца будаўніцтва ў мястэчках (у м. Капаткевічы, якое больш усіх пацярпела за час грамадзянскай вайны пабудавана 45 новых хат, у Калінкавічах 40 і г. д.), будаўніцтва якое ідзе ў пераважнай сваёй частцы за лік бядняцкай і серадняцкай часткі мястэчковага насельніцтва.

Саматужнікі ў мястэчках нашае акругі складаюць асноўную (больш буйную) групу (у некаторых мястэчках яны налічваюць 50 проц. агульнага ліку мястэчковага насельніцтва). За апошні год асабліва значна была разгорнута работа па каапэрыраваньню саматужнікаў (на 1-X-26 г. налічвалася каапэрыраваных саматужнікаў 1213 чал., па даным 7 раёнаў на 1-VII-27 г. рост павялічыўся на 286 чал.) На сёньняшні дзень ува ўсіх мястэчках маюцца пазыка-ашчадныя таварыствы і ў значнай частцы раёнаў маюцца прамысловыя каапэратывы (закупачна-збытавыя).

Работа пазыка-ашчадных таварыстваў значна ўзмацнілася як па лініі прыцягненьня ўкладаў, павялічэньня паявога капіталу, так і атрыманьня крэдытаў, што характарызуецца ў наступным:

| | на I-X-26 г. | на I-IV-27 г. | на I-VII-27 г. |
|---|---|---|---|
| уклады . . . . | 11.838 р. | 15.098 р. | 16.303 р. |
| паявы капітал. . . | 13 239 р. | 15.420 р. | 18.089 р. |
| крэдыт . . . . | 35.124 р. | 48.844 р. | 60.928 р. |

Гэтыя лічбы ў дастатковай меры характарызуюць рост пазыка-ашчадных таварыстваў. Праўда, у рабоце асобных таварыстваў не заўсёды праводзіцца чотка клясавая лінія ў разьмеркаваньні крэдытаў і здавальненьні саматужнікаў сыр'ём: ёсьць рад выпадкаў, калі заможны саматужнік, дзякуючы сваёй плацежаздольнасьці і большаму звароту карыстаецца крэдытам у большай меры, чымся бядняк.

Да недахопаў у працы трэба аднесьці, па першае недастатковае разгортваньне працы каапэрацыі ў сэнсе організацыі збыту саматужных тавараў, пытаньне якое зьяўляецца вельмі балючым у радзе мястэчак, па-другое—нязначны рост арцеляў, дзякуючы таму, што больш кваліфікаваны саматужнік (ён-жа больш заможны) у арцель не жадае ісьці і організацыя арцелі з малакваліфікаваных зараней кідае арцель на гібель і па-трэцяе што т-вы не вывучаюць правільнасьці скарыстаньня выдаваемых крэдытаў.

Другая група ў мястэчках—гэта рабочыя і служачыя. Становішча гэтай групы характарызуецца наступным: некаторы рост колькасьці сяброў прафсаюзаў, але нязначны лік кваліфікаваных рабочых, што бязумоўна мае свой адбітак на матэр'яльным становішчы гэтай групы. Матар'яльнае становішча рабочых і служачых мястэчку некалькі палепшылася, дзякуючы разгортваньню мясцовай прамысловасьці і наогул будаўнічай працы, але ўсё-ж заработная плата зьяўляецца ўсё яшчэ нізкай (у сярэднім 35-40 руб.).

Балючым пытаньнем дагэтуль у умовах мястэчку зьяўляецца беспрацоў'е. Некаторыя мястэчкі, дзякуючы разгортваньню грамадзкіх і сэзонных работ змаглі часткова палегчыць гэтае становішча, але гэта была часовая мера. Працкалектывы ў мястэчках з прычыны адсутнасьці дастатковай кваліфікаванай рабочай сілы, крэдыту, рынкаў збыту—перажываюць некаторы крызіс і бязумоўна перад намі павінна ва ўсю паўстаць пытаньне аб узмацненьні ў першую чаргу працкалектываў, аб падняцьці кваліфікацыі беспрацоўных і наогул аб паляпшэньні становішча гэтай групы.

Асабліва войстра стаіць пытаньне аб мястэчковай моладзі, якая ў значнай частцы ня мае ніякай кваліфікацыі і адсутнічаюць магчымасьці ў абвучэньні яе тэй ці іншай кваліфікацыі. Праўда, за апошнія часы маецца рост моладзі і падросткаў у саматужных прадпрыемствах, але гэта ня можа забясьпечыць патрабаваньняў моладзі.

Трэцяя группа—гэта нашы новыя яўрэйскія земляробы. Калі ў мінулыя гады былі толькі баязьлівыя крокі з боку нязначнай часткі „сьмельчакоў“ да пераходу на земляробства, дык у апошнія часы мы ўжо маем аформіўшагася яўрэя земляроба і вялікую цягу з боку яўрэйскага насельніцтва да земляробства. Праўда, мы яшчэ ў мястэчках спаткаемся з адмоўнымі поглядамі на калгаспадаркі, што тлумачыцца пакуль што яшчэ слабасьцю калгаспадарак і недастатковым аўторытэтам перад шырокімі масамі насельніцтва, дзякуючы недастатковаму ўкамплектаваньню іх болей устойчывым элемэнтам пры іх організацыі. Асабліва добры настрой маецца ў мястэчках навокал пытаньня перасяленьня ў Крым. За апошнія 2 гады было з акругі пераселена 240 сямействаў,

90 проц. з якіх складаюць мястэчковыя і вясковыя яўрэі. Жаданьне да перасяленьня маецца, галоўным чынам, у некваліфікаванай часткі саматужнікаў і дэклясіраванай частцы мястэчку. Аднак перасяленьню гэтых груп перашкаджае адсутнасьць дастатачнага ліку нарадаў ніжэйшых катэгорый (1-2).

Як вынік эканомічнага росту мястэчка, паляпшэньня матар'яльнага становішча насельніцтва, правільнай пастаноўцы работы савецкага апарату ў сэнсе больш поўнага абслугаваньня нацыянальных меншасьцяй—маецца значны рост зацікаўленасьці і актыўнасьці мястэчковага насельніцтва ў савецкім будаўніцтве.

Рэарганізацыя нацсаветаў па тэрытарыяльнаму прынцыпу ўзмацніла іх работу і значна падняла іх аўтарытэт. Дзякуючы правільнаму прыстасаваньню работы саветаў па абслугаваньню аб'яднаемых імі нацменшасьцяй (беларусаў, палякаў) значна прыблізіла яўрэйскае насельніцтва да іншых нацыянальных груп і значна спрыяе зьнішчэньню нацыянальнага антаганізму і нацыянальнай абмяжованасьці.

Некаторымі саветамі ў мястэчках была прароблена вялікая праца па паляпшэньню дабрабыту мястэчак, так напрыклад: па ініцыятыве Капаткевіцкага м-савету грамадзкімі сіламі прарыты вакол мястэчку канал сьцягам 4-х вёрст у мэтах асушкі балота, у Тураве і Нароўле урэгулявана пытаньне аб пасьбішчах для мястэчак.

У некаторых мястэчках (асабліва ў Тураве) маюцца яшчэ тэндэнцыі да стварэньня асобнага яўрэйскага нацсавету. Гэтыя настроі зьяўляюцца бязумоўна вынікам недастатковага прыстасаваньня работы мястэчковых саветаў да поўнага абслугаваньня ўсіх нацыянальных груп мястэчку.

Камітэты ўзаемадапамогі ў значнай ступені разгарнулі сваю работу і месцінамі досыць добра паставілі работу па аказаньню дапамогі мястэчковай беднаце (асабліва мэдыцынскую дапамогу). Праўда, у некаторых мясцох іх праца мае „сабезаўскі" ўхіл, але прымаюцца меры да разгортваньня вытворчай дзейнасьці камітэтаў.

У культурным абслугаваньні мястэчак маецца значны ўзрух уперад. Нардамы, бібліотэкі ўсё больш і больш прыстасоўваюць сваю работу да абслугаваньня мястэчковага насельніцтва. Яўрэйская школа карыстаецца вялікім аўтарытэтам, дзякуючы ўдзяленьню ёй большай увагі ў прадстаўленьні і пабудаваньні для іх новых будынкаў, забесьпячэньню школ (у большасьці сваёй) падрыхтаванымі настаўнікамі. На падставе гэтага маецца вялікі абхоп школамі дзяцей школьнага ўзросту (у Нароўлі 100 проц., у Тураве і Капаткевічах—70-80 проц.).

Усе прыведзеныя даныя вельмі яскрава гавораць аб росьце мястэчку і ўсё гэта бязумоўна зьяўляецца вынікам правільнага праламленьня дырэктыў партыі на мясцох. Трэба адзначыць, што райкомы і ячэйкі КПБ вельмі сур'ёзную ўвагу аддалі гэтаму пытаньню.

Некалькі слоў аб мястэчковых гандлярах. Побач з агульным ростам нашае каапэрацыі і некаторым выцясьненьнем прыватнага гандляра назіраюцца выпадкі канцэнтрацыі капіталу прыватніка, стварэньне розных аб'яднаньняў „спулкі" ў некалькіх мястэчках пры адначасовым разарэньні дробнага (больш бяднейшага) гандляра. Гэта паступова стварае кадры дэклясаванага элемэнту з разарыўшыхся дробных гандляроў, выцясьненых з эканамічных пазыцый (арандатары, макляры). За апошнія гады колькасьць дэклясаванага насельніцтва паменшылася, дзякуючы праведзенай рабоце па землянадзяленьню як у акрузе, так і перасяленьнем у Крым.

---

П. Галавач

# Аб некаторых выніках і задачах у комсамольскай працы

У пункце „Асноўныя проблемы комсамолу ў бягучы пэрыяд“ рэзалюцыі 14 зьезду ЎсеКП гаворыцца:

> „На першым мейсцы неабходна паставіць неадпаведнасьць паміж новымі запросамі мас у сувязі з гаспадарчым ростам і мэтадамі, формамі і зьместам работы комсамола. Прыстасаваньне работы да гэтых запросаў ёсьць, такім чынам, цэнтральная проблема комсамольскага руху ў бягучы пераломны пэрыяд“.

Гэтым 14-ты зьезд партыі паставіў перад комсамолам задачу ажыўленьня саюзнае работы і палепшаньне саюзнага кіраўніцтва. Комсамол, у большай меры, чым ён гэта рабіў да таго, павінен быў працаваць над здавальненьнем здаровых запросаў рабочай і сялянскай моладзі, каб ня згубіць ролі прываднога пасу ад камуністычнае партыі да мас моладзі. Гэта задача стаіць ва ўвесь свой рост перад ЛКСМБ і зараз.

Вядома, што організацыя ўвесь час вяла канкрэтную, карысную работу, але трэба гэта адзначыць, мы часта мелі як у рабоце ячэек, так і ў кіраўніцтве камітэтаў поўную адсутнасьць зьместу элемэнтаў вучобы, як работаць. Такое зьявішча можна знайсьці, праўда, куды радзей, і зараз.

Ячэйкі і камітэты „слухалі“ і „пастанаўлялі“. Вельмі часта за карысную работу і за добрае кіраўніцтва лічылі вынясеньне рэзалюцый і пастаноў па ўсім пытаньням з пачаткам у кожным пункце: „пасіліць“, „паглыбіць“, „пашырыць“ „наладзіць“, „прыняць рашучыя меры“ і г. д., а жывая справа, тым часам, наперад пасоўвалася вельмі ціха і паміма нашых „пунктаў“. Ячэйкі і камітэты ў пратаколах і плянах дзень за днём запісвалі адны і тыя-ж, ці падобныя адзін на другі пункты і пастановы і сьведкамі таго, што работаюць выстаўлялі „пасіліцельныя“, „паглыбіцельныя“, „пашырацельныя“ і іншыя „іцельныя“ і „ацельныя“ аргумэнты, а ў кучах папер з такой аргумэнтацыяй губіліся крупінкі карыснае работы. За гэтым наступае пэрыяд, пачатак і сярэдзіна 1926 году і часткова канец 26 г., так званых „шмат дасягненьняў“ і „шмат недахопаў“, і „неабходна“. Камітэты выяўлялі дасягненьні, недахопы, а ў прапановах усё яшчэ пастарому значнае мейсца займаюць агульныя словы.

Пасьля пастаноў III-га пленуму ЦК УсеЛКСМ аб палепшаньні ўнутры-саюзнага кіраўніцтва, організацыя шукае канкрэтных форм работы і кіраўніцтва і праходзіць яшчэ адзін, кароткі, этап „канкрэтнай безканкрэтнасьці“, калі многія ячэйкі і РК пачалі пісаць: „канкрэтна вырашыць пытаньне аб коопэрыраваньні беднаты“, „канкрэтна паставіць пытаньне аб наладжваньні работы з КСУ“ і г. д. Але ў гэты пэрыяд ужо ячэйкі і камітэты б'юцца над шуканьнем жывых форм работы і знаходзяць іх, а перад камітэтамі і ўсёй організацыяй усё яскравей паўста-

юць дзьве задачы: кантроль выкананьня рэалізацыі раней напісаных дырэктыў, рэзалюцый і прыстасаваньне да ўскладняючыхся ўмоў работы кіраўніцтва—суць апарат, актыў і г. д. І па сёняшні дзень у гэтай справе ЛКСМБ мае некаторыя посьпехі.

Вырашэньне задач пастаўленых перад комсамолам 14 зьездам УсеКП, і IX зьездам КПБ і VII-м зьездам УсеЛКСМ і ўмовы работы ЛКСМБ, патрабуюць асаблівай увагі пытаньню ажыўленьня саюзнае работы, пытаньню палепшаньня кіраўніцтва работай. Апошні пленум ЦК ЛКСМБ, (ад 3—5 кастрычніка 1927 г.) праработваў пытаньне аб выкананьні дырэктыў па ўнутры-саюзнаму кіраўніцтву і меў магчымасьць падвесьці некаторыя вынікі гэтай рабоце.

У горадзе ажыўленьне работы йдзе ў першую чаргу па лініі большага ўдзелу ячэек і, асабліва, асобных комсамольцаў у жыцьці прадпрыемстваў. Мы маем сярод комсамольцаў і беспартыйнай рабочай моладзі ўзмацненьне вытворчае дысцыпліны і, як вынік гэтага, амаль поўнае зьнішчэньне сярод комсамольцаў і моладзі бяспрычынных прагулаў. Мы наглядаем зараз больш шырокі і больш дзелавы ўдзел комсамольцаў у рабоце вытворчых нарад і камісій, дзе комсамольцы на грунце вывучэньня жыцьця прадпрыемства ўносяць шэраг практычных прапаноў, даючых ня малую эканомію сродак. Гэткія факты мы мелі на ф-цы „Чырвоная Бярэзіна", на шклянай гуце „Домбаль" на Менскай Электрастанцыі і шэрагу др. прадпрыемстваў. Шырэй разгортваецца і паляпшаецца якасна работа, па вытворчай адукацыі і вытворчаму выхаваньню рабочай моладзі (мы не гаворым аб форме навучаньня праз ФЗВ, профтэхшколы). Тут занялі значнае месца брыгаднае і індывідуальнае навучэньне, вытворча-тэхнічныя гурткі, вячэрная курсы па дакваліфікацыі, конкурсы на лепшага вучня і лепшага комсамольца ў вытворчасьці і г. д. Комсамольскія ячэйкі больш дружна працуюць з спэцыялістымі—прыцягненьне спэцыялістых да кіраўніцтва тэхнічнымі гурткамі, нарада вучняў з майстрамі і спэцыялістымі. Камітэты і ячэйкі падышлі бліжэй да практычнага кіраўніцтва работай ячэек і асобных комсамольцаў на прадпрыемствах.

Калі гаварыць аб вёсцы, дык тут трэба адзначыць усё разгортваючыйся шырэй і шырэй удзел комсамольскіх ячэек у гаспадарчым і грамадзкім жыцьці вёскі, удзел у практычных мерапрыемствах партыі, гаспадарчых і савецкіх органаў па разьвіцьцю і коопэрыраваньню сельскае гаспадаркі. Ёсьць, праўда пакуль яшчэ зусім рэдкія, факты пачынаньняў колектывізацыі сельскай гаспадаркі (с.-г. арцель „Комсамольская Воля" у Смалявіцкім раёне).

На старонках комсамольскага друку („Чырвоная Зьмена") мы можам чытаць аб шэрагу фактаў ініцыятывы комсамольскіх ячэек у правядзеньні землеўпарадкаваньня, у мэліорацыйных работах, у правядзеньні пасеўных кампаній, аб шэрагу фактаў агракультурных пачынаньняў з боку комсамольцаў у сваіх гаспадарках, у разьвіцьці відаў с.-г. коопэрацыі і г. д. Некалькі слоў аб некалькіх фактах.

Задубская ячэйка ЛКСМБ, Магілеўскай акругі, агляд работы якой рабіўся на старонках „Чырвонай Зьмены" ў ліпені 27 г., пачаўшы з пастановы ў 25 г. аб тым, што „комсамольцы ў абавязковым парадку павінны сеяць насеньнем ачышчаным на сартыровачнай машыне, або на добрай варсе. Прапануецца сваё дрэннае насеньне абмяняць у саўхозе на гатунковае, аб чым бюро павінна дагаварыцца з загадчыкам саўхозу,—дайшлі да землеўпарадкаваньня ў 2-х вёсках шматпольля, пасеву кармавых траў і кораньплодаў, уцяпленьня хлявоў і ўвядзеньня дацкіх кармушак. Гэту работу вялі організована, утварыўшы па сваёй ініцыятыве 3-х тыднёвыя сельска-гаспадарчыя курсы, пад кіраўніцтвам аграномаў. Каб

дастаць аграномаў некалькі раз хадзілі ў РВК. Па ініцыятыве ячэйкі арганізавана с.-х. т-ва, набылі за грамадзкія грошы і як прэміі за добрую гаспадарскую работу некалькі машын, арганізавалі пажарную дружыну, коопэратыў, ячэйку Мопр'у ў 70 членаў, разгарнулі шырока культурную работу.

Ячэйка здолела практычна знайсьці способы ўвязкі асабістай зацікаўленасьці комсамольцаў у палепшаньні сваёй гаспадаркі, з агульнымі задачамі сацыялістычнага будаўніцтва.

Збораўская яч. (Бабруйскай акругі). У комсамольцаў у руках „уся ўлада“. Комсамольцы на чале с.-савету, коопэрацыі. Арганізавалі коопэрацыю і за год з 50 навербавалі да 200 пайшчыкаў. Змаглі паказаць наглядна селяніну карысьць коопэрацыі.

Карповіцкая і Пярэвіцкая ячэйкі (Бабруйск) утварылі с.-г. вытворчую нараду. На нараду йдуць сяляне і абгаварваюць там пытаньні: як сеяць, як весьці гаспадарку. Парашылі на нарадзе займацца жывёлагадоўляй і сьвіней гадаваць і купілі агулам добрага быка і кныра.

Можна прыводзіць такія факты без канца. Але ёсьць і другія ячэйкі, якія пры наліччы ўсіх магчымасьцяй, нічога ня робяць, ня ўмеюць узяцца за работу.

Вядома, што вышэй пералічаным далёка ня вычэрпваюцца дасягненьні ЛКСМБ ў галіне кіраўніцтва і ажыўленьня саюзнае работы. Можна адзначыць шэраг і другіх дасягненьняў: значнае высоўваньне новага актыву з рабочых і сялян, посьпехі ў разгортаваньні ўнутрысаюзнае дэмакратыі, пасіленьне жывога кіраўніцтва, замест кіраўніцтва абежнікамі, большая плянавасьць і канкрэтнасьць у рабоце і др.

Але пленум ЦК ацэньвае ўсе гэтыя дасягненьні толькі як пачатак работы. Якія-ж задачы стаяць перад ЛКСМБ у справе палепшаньня ўнутры-саюзнага кіраўніцтва надалей? Галоўная задача—зьнішчэньне выяўленых недахватаў ў рабоце і ажыцьцяўленьне пастаноў III-га пленуму ЦК УсеЛКСМ, далейшая работа па зьнішчэньню неадпаведнасьці між запросамі мас рабоча-сялянскае моладзі і комсамольскай работай. Акрамя гэтага перад ЛКСМБ стаіць шэраг другіх задач.

У справе палепшаньня ўсякай работы вялікую ролю адыгрывае скарыстаньне маючагася ўжо вопыту. Каб вопыт скарыстаць, трэба аб ім ведаць, трэба яго сабраць. У нас асобныя ячэйкі, раёны акругі маюць добры вопыт работы, але ў нас зусім слаба да гэтага часу, пастаўлена работа па зьбіраньню, вывучэньню гэтага вопыту і распаўсюджваньню яго на другія арганізацыі. Выявіцца ў ячэйцы новае што ў рабоце, а другія ячэйкі аб гэтым ня ведаюць. Есьць у нас пры РК інструктарскія групы. У некаторых акругах яны змаглі наладзіць сваю работу і аказваюць Райкомам вельмі значную дапамогу, а ў другіх акругах ня ведаюць як і што ім рабіць і адміраюць. З-за таго, што адна арганізацыя не перадала вопыту работы сваіх груп, другія ня могуць гэтай добрай формы работы скарыстаць.

Адсюль перад намі паўстае задача сыстэматычнай работы па зьбіраньню, вывучэньню і распаўсюджваньню на ўсю арганізацыю лепшага вопыту. Завесьці „сшыткі вопыту работы“ па акрузе, раёну, высьвятляць шырэй вопыт ячэяк у комсамольскім друку. Трэба каб жывы, каштоўны матэрыял, які маецца ў арганізацыі, быў сабраны, вывучаны, а ў нас ён вельмі часта зьяўляецца дастаяньнем, у меншым выпадку, пратаколу, а то дык і там яго няма і дзякуючы гэтаму мы многага, што ёсьць у арганізацыі, ня ведаем ня можам прымяніць, з-за гэтага многія добрыя формы работы адміраюць, не пасьпеўшы выявіцца, бо яе не падтрымаюць, не замацуюць.

# ЗЬМЕСТ

Стар.



## НА МЯСЦОХ



## БІБЛІОГРАФІЯ

У рабоце ячэйкі і камітэту вельмі многа знача добры плян. А ў нас, трэба прызнацца, ёсьць яшчэ няўменьне складаць пляны. Нашы ячэйкі, ды й РК яшчэ часта пішуць агульныя, так званыя „вечныя пункты“ плянаў, годныя „для всех времен и всех народов“, як: „весьці работу сярод беспартыйнай сялянскай моладзі“, ці „прыняць удзел у коопэрыраваньні сялянства“, альбо „сканцэнтрыраваць увагу вясковай арганізацыі на пытаньнях сапраўды цікавячых сялянскую моладзь“ (апошні пункт з пляну аднаго Акругкому). Гэтыя пункты піша вясковая ячэйка, а вось, якую работу весьці, ня піша, а трэба іменна ў пляне вызначыць, пералічыць работы, якія за азначаны пэрыод часу думае ячэйка ці РК зрабіць. І павінна быць запісана і наогул „весьці работу“, прымаць удзел“, а што зрабіць, напрыклад: „абглядзець работу комсамольца прыказчыка коопэратыву“, „вывучыць і падрыхтаваць на ячэйцы да вытворчай нарады пытаньне аб патрэбнай колькасьці нафты для рухавіка, даручыць гэта таварышу працуючаму памочнікам машыністага і яшчэ тром таварышом“. Гэтыя пункты таксама пішуцца ўжо ячэйкамі.

Біручы для работы на плянавы пэрыод некалькі пытаньняў, трэба строга вызначыць тэрміны выкананьня работы і каму даручаецца работа (камітэту, ячэйцы, асобным т. т.). Гэта дасьць магчымасьць лепш правяраць работу. Абавязак сэкратара ячэйкі ці камітэту дакладваць сходу, пленуму, якія пастановы, заданьні, калі і як выкананы.

Трэба вызначаемыя ў плянах работы ўвязваць з вытворчымі і гаспадарчымі плянамі свайго заводу, сельсавету, коопэратыву, РВК і др. гаспадарчых і савецкіх установ, каб ня здарылася таго, што с/савет ці коопэрацыя працуе над коопэрыраваньнем беднаты сёньня, а мы аб рамонце дарог гаворым. Увязка плянавых работ дасьць нам магчымасьць больш прыцягнуць у дапамогу нашай рабоце гаспадарчыя, савецкія і др. установы і з другога боку магчымасьць нашай арганізаванай дапамогі ім у выкананьні іхняе работы.

Патрэбна ўвязка плянаў работ камітэтаў з верху да нізу ў тэрмінах і асноўных пытаньнях, над якімі павінна работаць арганізацыя. Трэба яшчэ работаць над скарачэньнем і канкрэтызацыяй плянаў камітэтаў. Райкомы павінны дапамагчы ячэйкам у складаньні пляну, а мы маем факт, калі Бабруйскі Гарком ЛКСМБ піша ячэйкам абежнік, што неабходна прыступіць да складаньня плянаў і што ў плянах асноўнае павінна быць яснасьць, канкрэтнасьць і г. д. Аб якой яснасьці і канкрэтнасьці йдзе рэч, невядома для ячэек.

Сутнасьць кіраўніцтва ў сучасных умовах заключаецца ў сачатаньні ўмелага, сваечасовага вучоту настрояў рабоча-сялянскае моладзі і забесьпячэньня максімальнага ўдзелу радавых комсамольцаў у вызначэньні практычных шляхоў работы і ў самой рабоце. У зьвязку з гэтым перад намі паўстае ва ўвесь рост задача рашучага ажыцьцяўленьня прынцыпаў унутры-саюзнае дэмакратыі, паглыбленьня работы па разьвіцьцю самадзейнасьці і ініцыятывы ва ўсім нізавым актыве і масе комсамольцаў, замацоўваючы, прывіваючы ўсе прыклады добрых пачынаньняў у рабоце, ідучыя з нізу. Трэба каб ячэйкі, раёны з нізу высоўвалі перад арганізацыяй шэраг практычных мерапрыемстваў. У нас гэта зьяўляецца пакуль рэдкасьцю.

Ініцыятыва, самадзейнасьць, могуць праявіцца на рабоце. Адсюль задача—лепш разьмяркоўваць абавязкі ў ячэйцы, большую масу комсамольцаў нагрузіць практычнай, карыснай, і для арганізацыі і для нагружаемага, работай. Не фармальна нагрузіць, калі рэгістрацыю прысутнічаючых на сходзе лічаць за саюзную нагрузку, а іменна карыснай работай. Некаторыя ячэйкі гэтую работу ўжо робяць, высоўваючы цэлы шэраг новых абавязкаў: арганізатары па культурна-масавай, па гаспа-

дарчай рабоце; упаўнаважаныя па коопэрыраваньню комсамольцаў і моладзі, па вучоту прагулаў і наведваньня з боку комсамольцаў і моладзі, вытворчых нарад і камісій (Бабруйск). Існуе цэлы шэраг форм, праз якія трэба, замацоўваючы і пашыраючы іх, разьвіваць самадзейнасьць комсамольцаў, рыхтаваць і выхоўваць новы актыў. Гэтыя формы наступныя: інструктарскія групы пры РК і ячэйках з комсамольцаў і нізавога актыву і камісіі пры РК і ячэйках па вывучэньню асобных пытаньняў работы; пасялковыя групы, групы пры ячэйках з комсамольцаў і беспартыйнай моладзі па шэрагу бытавых і вытворчых пытаньняў; нарады комсамольцаў па асобным галінам работы.

Трэба сьмялей нагружаць радавіка. А ў нас часта вельмі замест даручэньня работы комсамольцу ці групе, апошняя ўскладваецца на асобных актывістых (сэкратар, член бюро).

Побач з гэтым набывае пярвейшае значэньне вучоба з боку камітэтаў і актыву, як работаць комсамольцу ці ячэйцы, ці актывісту нізавіку.

Мы слаба паашчраем добрыя пачынаньні ячэек, асобных таварышоў, слаба дапамагаем ячэйцы ў рабоце пачатай ёй самой. Знаходзяцца й такія актывістыя, якія на пачынаньне ячэйкі кажуць ёй, што гэтага нельга рабіць, бо яшчэ РК не разьбіраў гэтага пытаньня. Трэба каб абежнікі, абгляды, якія мы праводзім, каб яны насілі характар вучобы работаць. Абгляды павінны ўключаць у сабе момэнт вучобы работаць, праз непасрэднае выкананьне інструктарам, работнікам ці членам камітэту, азначанай работы ў РК, у ячэйцы. Заслухоўваньне дакладаў камітэтаў, асобных таварышоў, ці груп аб выкананьні даручанай работы трэба абавязкова ўвязваць з праверкай таго, што сапраўды зроблена і элемэнтам вучобы як работаць. А то, напрыклад, Парыцкі РК абглядае ячэйку, заслухоўвае яе даклад і піша пасьля абгляду ячэйцы 40 пунктаў для выкананьня. Зразумела, што ячэйка можа згубіцца ў 40 пунктах і ніводнага ня выканае, калі не перакрэсьліць па свойму пункты РК. Любаньскі РК піша 8-мі ячэйкам адны і тыя-ж, буква ў букву паказаньні аб пасіленьні партыйна-пролетарскага кіраўніцтва. Альбо той-жа Бабруйскі Гарком дасылаў ячэйкам дырэктыўныя лісты (гэта пры ўмове, калі ўсе ячэйкі пад бокам!) і да іх прыкладаў па старонак 20 друкаваных розных матэрыялаў. Гэта кожны месяц, а ў ячэйкі заглядваў толькі ў час перавыбараў, ды калі там склока якая ўзьнікала. Ячэйка патрабуе: скажы, як рабіць, што рабіць у вытворчай камісіі, у коопэрацыі, навучы ўмела арганізаваць вечар, прагулку, укажы, якія кнігі чытаць, а мы на ўсё гэта часам яшчэ пішам абежнікі. Усім! Усім! Усім! і ў выніку нікому.

Ня прыходзіцца й гаварыць аб тым, што ў значнай меры палепшаньне работы па кіраўніцтву, залежыць ад актыву. Што-ж мы маем у актыве? Палітычны і культурны ўзровень нашага актыву далёка недастатковы, актыў малапісьменны як у пытаньнях тэорэтычных, так і ў пытаньнях сваёй практычнай работы, слаба работае над тэорэтычным разьвіцьцём па пытаньням сваёй работы—так званая спэцыялізацыя актыву. А няпісьменны, жывучы толькі фразамі з рэзалюцый, кіруючыся аргумантамі „трэба“, ня ўмеючы даказаць, „чаму трэба“—актывісты ня зможа зьяднаць і павесьці за сабой масу комсамольцаў. Актыву трэба вучыцца. Пленум ЦК гэта асабліва падкрэсьліў, вызначыўшы для актыву зачатную сыстэму вучобы.

Нізкі палітычны і культурны ўзровень актыву служыць прычынай таго, што актывісты часам пудзіцца цяжкасьцяй у рабоце, апускае рукі, губіцца.

Ёсьць у актыве і шэраг другіх адмоўных, нездаровых момантаў. Гэта няўважлівасьць у рабоце, неорганізаванасьць, раскіданасьць, вер-

хаглядэтва, недысцыплінаванасьць і без‘адказнасьць за работу, элемэнты казёншчыны і бюрократызму, што выяўляецца ў няўважлівых адносінах да таварышоў, да радавых комсамольцаў, у адрыве актывістага ад мас комсамольцаў. Часта такі актывісты, пры адсутнасьці ўсякіх тэорэтычных ведаў, корчыць з сябе ўсязнайку, а на справе ён пры надворным бліску, нахватнасьць фраз, слоў „вумных“, носіць у сабе поўную нутраную пустэчу, зьяўляецца абразцом тыпу „унівэрсальнага нікудышніка“.

Можна напаткаць у асобных актывістых элемэнты падхалімства перад вышэй стаячамі, калі чалавек усё зробіць, абы „дагадзіць вышэйшым“ і перад масамі, што выяўляецца ў падлізаваньні да мас, у хвасьцізьме. Такі актывіст лічыць за сродак сувязі з масамі—разам выпіць, як можна больш мацерна лаяцца, расказваць пахабныя анэкдоты.

Наша задача—барацьба за працаздольны актыў, за партыйную, ідэёвую і маральную чыстату актыву. У гэтым патрэбна дапамога ўсёй масы комсамольцаў.

Неабходна павысіць трэбавацельнасьць да актыву як з боку камітэтаў, так з боку мас комсамольцаў, павысіць адказнасьць за словы, за работу, за кожны пастулак. Трэба весьці рашучую барацьбу з усім нездаровым, што ёсьць у актыве. Гэта ўсё цалкам адносіцца і да кожнага комсамольца.

На прадстаячы пэрыод, у сувязі з прадстаячымі перавыбарамі саюзных ворганаў, пленум ЦК высунуў задачу палепшаньня якаснага складу актыву (яго сацыяльны і партыйны склад), за лік большага высоўваньня рабочых, парабкоў і беднякоў і парт‘асяродку. Пры падборы актыву трэба кіравацца побач з гэтымі і другімі прызнакамі, як та: уменьне работаць у сучасных умовах; пастаянная работа над павышэньнем свайго тэорэтычнага ўзроўню і практычнай кваліфікацыі; чоткага разуменьня партыйнае лініі і ўменьня разьбірацца ў грунтоўных пытаньнях політыкі партыі.

Пасьпяховае вырашэньне задач стаячых перад ЛКСМБ, можа быць забясьпечана ажыцьцяўленьнем правільна-пастаўленага партыйна-пролетарскага кіраўніцтва. Усямерна ўзмацняючы яго неабходна рашуча змагацца з усякімі папыткамі ўхіленьня ад кіраўніцтва партыі. Адначасова задача парткомаў і партячэек іжываць маючыя месца ў парткіраўніцтве выпадкі дробнай організацыйнай апекі, сьціскаючай самадзейнасьць комсамольскае ячэйкі, пераносячы галоўную ўвагу на практычную, штодзённую дапамогу ў рабоце комсамольскіх ячэек. Неабходна павысіць політычную вагу і ролю ў рабоце ЛКСМБ партасяродку, праз большае ўцягненьне яго ў комсамольскую работу. Партыйныя організацыі павінны больш увагі аддаць рабоце комсамола, неабходна каб і пленум ЦК ЛКСМБ выказаў гэта пажаданьне, сыстэматычнае вывучэньне, з боку партыйных кантрольных камісій (ЦКК і АКК) грунтоўных пытаньняў работы ЛКСМБ.

**Міх. Шмідт**

# Неадкладная задача газэт БССР

Ня гледзячы на шэраг дырэктыў, ня гледзячы на тое, што вайсковая небясьпека супроць Савецкага Саюзу застаецца самым актуальным фактам, шмат акруговых газэт і некаторыя Цэнтральныя—яшчэ ня досыць добра ўявілі важнасьць іх удзелу ў дапамозе абароны краіны Саветаў.

Здавалася-б, што пасьля апошняе нарады рэдактароў пры ЦК КПБ ад 10 верасьня і шэрагу дырэктыў—асабліва апошні абежнік за № 7938-53, нашы газэты павінны былі-б уявіць гэтае пытаньне. Але-ж урэшце мы наглядаем іншае.

Нарада, якая склікалася спэцыяльна па пытаньню „Задачы газэт у сувязі з вайсковай небясьпекай", павінна была пасьля некалькіх дзён пасьля разьезду рэдактароў на мейсцы, узмацніць тэмп удзелу газэт у абароне, а на справе выйшла так, што большасьць газэт пашлі па „нисходящей" лініі ў гэтай галіне.

Праверка ўсіх газэт БССР за тэрмін з 15 верасьня па 12 кастрычніка выявіла наступнае:

Газэта „Рабочий"—выданьне ЦК КП(б)Б асьвяціла манэўры і паставіла кропку. Няма „Вайсковага Аддзелу", няма ні слова аб працы Осо-Авіяхіму, провадаў 1903 году і г. д.

Па думцы газэты „Рабочий", вайсковая небясьпека мінавала. Але-ж газэта, якая зьяўляецца выданьнем ЦК КП(б)Б павінна задаваць тон нашым акруговым газэтам у справе тлумачэньня пытаньня абароны краіны.

„Савецкая вёска" (Мазыр). Мае рэгулярны „Вайсковы аддзел" пад назваю „Вайсковы куток". Адна назва Аддзелу кажа за тое, што газэта не зразумела задач абароны.

Ці зьяўляецца такая назва аддзелу клічам практычным лёзунгам насельніцтва да абароны. Бязумоўна, што такі аддзел лепш і не даваць у газэце.

Гэтая-ж газэта ў сваім „Вайсковым Кутку" займаецца асьвятленьнем Адэскіх і Каўкаскіх манэўраў, якія практычнага для ваенізацыі нічога ня далі, забываючы ў той час аб праходзячых Бабруйскіх манэўрах, у якіх прымала гарачы ўдзел насельніцтва, якія былі скарыстаны для ваенізацыі сялянства.

Прыведзены толькі два факты, а іх мы маем шмат.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што вайсковыя аддзелы газэт, за выключэньнем двох-трох, задачай якіх зьяўляецца асьвятленьне пытаньня і ўдзелу насельніцтва БССР, як краіны прыгранічнай, у будове абароны краіны, даваць практычныя парады, каб дапамагчы абароне, папулярызаваць чарговыя задачы і мерапрыемствы партыі ў сувязі з контр-рэвалюцыйнай вайной, якую супроць нас рыхтуюць. Газэты не справіліся і ня прымаюць ніякіх крокаў, каб у гэтай галіне дапамагчы партыі, а наадварот, заметна некаторае паслабленьне.

Сухасьць друкуемага матэрыялу большасцю газэт паказвае, як нясур'ёзна адносяцца яшчэ і да гэтага часу к аднаму з найгалоўнейшых, неадкладных пытаньняў дню.

Яшчэ раз трэба запамятаваць: *што небясьпека контр-рэвалюцыйнае вайны супроць СССР—ёсьць самая вострая праблема бягучага пэрыяду*—гэта ацэнка, даная апошнім Пленумам ЦК Ўсесаюзн. Ком. партыі (б), зьяўляецца адказам на пастаўленае пытаньне.

Зьезды работніц і сялянак, якія адбыліся па СССР, дзе першым пытаньнем вырашалася „Абарона краіны", дзе амаль што кожная дэлегатка па гэтаму пытаньню выступала, аб гэтым нявідаць было адбітку ў большасьці газэт.

Зараз ідзе вялікая падрыхтоўка да дню „Сьвята Ўраджаю", якое ў гэтым годзе праходзіць пад лёзунгам „абароны краіны" прашла пакуль што маўчком нашымі газэтамі за выключэньнем „Беларускае вёскі" і „Зьвязды". Апошняя зьмясьціла дзьве перадавіцы па гэтаму пытаньню.

Пры такой пастаноўцы працы, пры такой няўвязцы нашага матэрыялу з пытаньнем абароны, мы ні ў якім разе ня зможам скласьці грамадзкую думку навакол пытаньня абароны.

Чарговаю неадкладнаю задачаю газэт зьяўляецца:

1) Плянава, сыстэматычна, узяцца за рэгулярную популярызацыю пастаноў нашае партыі, скарыстоўваньне галоўных фактаў міжнароднага становішча СССР, фактаў узросту рэвалюцыйных сіл на Захадзе і г. д., а разам з гэтым нашых задач у сувязі з палітыкай цьвёрдалобых.

2) Дабіцца канкрэтнасьці ў асьвятляемых пытаньнях, адмовіцца ад пытаньняў агульнага характару, не даючых нічога практычнага для ваенізацыі. Больш уважна асьвятляць дасягненьні ваенізацыі ў прадпрыемствах, на вёсцы, сваёй акругі (для акруговых газэт), чымся пісаць аб якіх небудзь далёка, не ў БССР праходзячых манэўрах. Трэба даваць практычныя парады, як напрыклад: пабудова газаўбежышчаў на вёсцы альбо ў прадпрыемствах. Першая хуткая дапамога атрауленым газамі. Маскіроўка ад паветранага ворага, як пабудаваць стралковы цір і г. д.

3) У нашай краіне, як Беларусь, асаблівую ролю набывае пытаньне вастанаўленьня ў успамінах працоўных, героічнай барацьбы партызан з белапалякамі і ўдзельнікаў грамадзянскае вайны. На гэтым мы зараз павінны выхоўваць і закаляць насельніцтва да надыходзячых боек.

4) Неабходна ў самы бліжэйшы час к пытаньням абароны прыцягнуць увагу рабкораў, селькораў і насьценгазэт, бо тут яшчэ непачаты край работы. Праз нарады рабселькораў і редкалегій насьценгазэт прававадзімыя нашымі пэрыядычнымі газэтамі, ставячы на іх пытаньне абароны і практычнага ўдзелу іх у гэтым, мы што-небудзь дасягнем дадатнага ў справе абароны.

Трэба памятаць, што рабселькоры і насьценгазэты, у гэтых адносінах нам шмат у чым памогуць.

5) Побач з нашаю падрыхтоўкаю да абароны неабходна растлумачваць шырокім колам насельніцтва, што палітыка СССР была, ёсьць і застанецца палітыкаю міра і што мы рыхтуемся не да наступленьня, а да абароны заваёў кастрычніка.

# БІБЛІОГРАФІЯ

Выданьнем кніжкі Б. Олікер і Л. Розэнблюм—„Нарысы гісторыі Комсамолу Беларусі"—Цэнтральная Камісія па правядзеньні 10-е гадавіны Кастрычнікавае Рэвалюцыі зрабіла вялікую дапамогу Ленінскаму Комсамолу Беларусі ў справе вывучэньня яго гісторыі барацьбы, будаваньня комсамольскіх арганізацый, падагуленьня яго дасягненьняў і таму кніжка зьяўляецца надта карыснай.

У сваёй прадмове гэтай кніжкі, т. Кнорын говорыць: „Рэкомэндуючы гэту кніжку самым шырокім гушчам моладзі Беларусі, мы спадзяёмся, што яна падыме новыя пласты да актыўнай творчай комсамольскай працы, што яна будзе адчуваць рэвалюцыйным энтузяізм новых пластоў моладзі,—а гэта ёсьць адна з умоў пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне".

Сказанае зьяўляецца даволі станоўчым водгукам.

Вядома, што гэта яшчэ ня ёсьць напісана поўная гісторыя Комсамолу. Аўтары кніжкі самы гавораць, што яны зрабілі толькі першы крок у гэтым напрамку і трэба сказаць, што „першы крок"—ня кепскі.

Разьдзел І-шы—„Беларусь перад рэволюцыяй" хоць надта кароткі, але добра складзены і дае малюнак эконамічнага становішча таго часу.

Праўда, трэба сказаць, што маецца ня мала і недахопаў у кніжцы і на гэтых недахопах я хачу найбольш спыніцца.

Пачынаючы з 2-га разьдзелу і да 9-га, кніжка гучыць некаторай аднабокасьцю, недаволі крытычным марксыцкім аналізам. Разьдзелы 9-ы і 10-ы ўжо адрозьніваюцца больш крытычным аналізам, чым папярэдніх.

Найбольш правільны аналіз матар'ялу кніжкі з ІІ-га разьдзелу—„Узьнікненьне Комсамолу Беларусі".

У разьдзеле—„Характар юнацкага руху ў дарэвалюцыйны пэрыяд"—рабочая моладзь малюецца як моладзь буйнай індустрыяльнай краіны, як моладзь буйнай фабрыкі, ня зьвязаная з уласнасьцю, малюецца (акутаная тысяччу нітак кустарніцкая, уласьніцкая ідэалёгія моладзі, як ідэалёгія індустрыяльнай моладзі П. В.) моладзь монолітнай непадзельнай.

Старонка 18, чытаеш: ...„Да рэчы сказаць, моладзі ня было чаго траціць. Маладыя рабочыя ня мелі ні тэй уласнасьці (хаткі, агародзікі, мэблі і г. д.), якая мелася ў некаторых пажылых ўжо рабочых..." (Разумей іх бацькоў П. В.) Гэта ідэалізацыя.

Гэты малюнак імкнецца паказаць ідэалёгію моладзі, свабодную ад уласнасьці, ад „хаткі, агародзіка і г. д.", свабодную ад уплыву сваіх бацькоў—рабочых кустароў, глыбока ўросшыхся і далёка не асвабадзіўшыхся ад уласьніцкай ідэалёгіі. І гэты аналіз адносіцца як да 1905 году, так і к пэрыяду 1905 г. З таго прашло многа часу, адбылася вялікая Кастрычнікаўская Рэволюцыя, прайшло дзесяць год рэвалюцыйнага будаўніцтва, мы далёка шагнулі ў сацыялістычным будаўніцтве і вядома, што ўсё гэта зрабіла і робіць вялікую ідэалёгічную рэканструкцыю, а разам з гэтым мы ведаем, што наша моладзь, рабочая моладзь (на палову кустарная) у сілу эканамічных умоў і зараз далёка яшчэ ня высвабадзілася ідэалёгічна ад уплыву „старэйшых рабочых" (бацькоў і не бацькоў) многіх крэпка яшчэ ідэалёгічна зьвязаных з уласнасьцю, далёка яшчэ ідэалёгічна ў большасьці сваёй ня высвабадзілася

ад уплыву „хаткі, агародзікаў“, а часта і свае майстэрні. Хіба-ж гэта ня факт?—Гэта факт.

Вясковая моладзь закранута неяк, як быццам мімаходам. Напрыклад:... „Вясковая бедната (моладзь) дзейнічала гуртам, масай, запатрабаваньні яе былі аднолькавыя, без залежнасьці ад узросту. Тут моладзь адыгрывала яшчэ большую ролю, чым у рабочым руху“ і гэта ўсё ў разьдзеле, больш ня сказана ні слова.—„Дзейнічалі гуртам“, а што, як дзейнічалі, у чым выражаліся дзеяньні, нічога ня сказана. Тут зусім слаба распрацована (ст. 20).

Вялікі прабел кніжкі ў тым, што ў быўшай клясычнай бундаўскай краіне, калі да Кастрычнікаўскай рэвалюцыі на Беларусі, „Бунд“ быў гэгемонам сярод рабочых краю, ня высьветлена роля і ўплыў „Бунду“ на рэвалюцыйнасьць моладзі, ня дадзена марксысцкага аналізу таго, наколькі „Бунд“ тармазіў бальшавізацыю моладзі.

Мы ведаем, што і зараз мінулая бундаўшчына мае многа памехаў па належнай бальшавізацыі моладзі.

Аўтары абмежаваліся толькі звычайным апісаньнем „Клейн-Бунду“, як быццам гэта не зьяўляецца дзецішчам меншавіцкага контр-рэвалюцыйнага „Бунда“.

5-ы разьдзел кніжкі ўложаны пераважна з вытрымак дакумантаў Цэнтраархіву, якія, як відаць, зьмешчаны так, як яны ўзяты ў архіве, без марксыцкага аналізу. Асабліва гэта яскрава, калі ўзяць старонку 47-ю з разьдзелу „Рабочая моладзь у палітычнай барацьбе“... „У Менску на Камароўцы „Бундам“ быў наладжаны сход маладых рабочых і прыказчыкаў. На сходзе былі заслуханы даклады (чытай бундаўскія) аб консьпірацыі і аб эканамічным становішчы моладзі... і далейшыя гэткія пералічэньні. Ясна, што пануе „Бунд“. Застаецца ўсё гэта бяз усякай ацэнкі.

Старонка 84-ая апісвае дэманстрацыі вучнёўскай моладзі, да якіх ...„паволі пачалі далучацца групы рабочых, арганізаваныя „Іскрай“ і „Бундам“... Прымала ўдзел у дэманстрацыі каля 5.000 чалавек.“

Можна падумаць, што „Іскра“ з „Бундам“ вяла дружную сумесную работу. Тут, можна ўпасьці ў памылку.

Далей гаворыцца, што „яшчэ ў 1904 годзе ў часе забастоўкі вучняў „Іскра“ ішла на дапамогу вучням.. Значыць „Іскра“ разумела і цікавілася ня толькі рэвалюцыйным рухам рабочай моладзі, а нават і бунтарскім вучнёўскім рухам. „Іскра“ тым больш добра разумела значнасьць арганізацыі рэвалюцыйнага руху.

І неяк дзіўна, калі ў разьдзеле „Юнацкі рух у Беларусі пасьля Лютаўскай рэволюцыі“, гаворыцца, што „Цэлы шэраг спроб рабочай моладзі да ўтварэньня сваіх арганізацый былі няўдачнымі, бо ня мелі падтрыманьня з боку партыі“. Выходзіць, што ня было падтрыманьня з боку Ленінскай партыі на чале з т. Леніным. І гэта пішацца пасьля таго, як у гэтай-жа кнізе прыведзены вытрымкі з Леніна, калі Ленін яшчэ ў 1905 г. казаў—„Ідзеце да моладзі“ (стр. 19).

Зусім нявызначана барацьба за моладзь паміж бальшавіцкай партыяй і меншавіцкім „Бундам“, як быўшай асноўнай масавай арганізацыяй сярод рабочай моладзі, ды іншымі меншавіцкімі і контр-рэвалюцыйнымі арганізацыямі.

Нявысьветлена і не адбіта роля Комсамолу ў вытворчасьці.

Кніжка дае даволі багаты малюнак цяжкага становішча моладзі ў мінулым і пералічэньні тых ахвяр, якія моладзь на рэвалюцыйным шляху ўжо панесла.

Кніжка будзе больш поўнай і каштоўнай, гісторыя Комсамолу будзе вывучацца больш глыбока і правільна, чым больш і актыўнейшы будзе ўдзел кожнага комсамольца ў яе далейшым складаньні і вывучэньні.

З тэхнічнага боку кніжка выдадзена добра.

Кніжку трэба раіць ня толькі кожнаму комсамольцу, але і члену партыі.

*П. Віленстовіч.*

# Весьці Народнага Камісарыяту Юстыцыі Беларускае ССР

10 месяцев, как существует в Белоруссии юридический журнал. Эти 10 месяцев в жизни первого юридического журнала дают нам возможность высказать несколько замечаний и пожеланий на дальнейшее.

Развитие нашего законодательства, большая работа по кодификации наших законов и огромный интерес работников, проводящих советские законы в жизнь, к правильному пониманию этих законов, вызвали необходимость существования ряда юридических журналов во всех союзных республиках. Правда, в РСФСР и в УССР данный вопрос был разрешен много раньше, чем в БССР, что об'ясняется рядом причин и условием развития роста упомянутых республик. Там на помощь работнику советской юстиции пришел полный ряд ценных журналов: „Революция права", „Советское право", „Еженедельник Советской Юстиции". „Судебная практика", ряд кодексов с постатейными комментариями и т. д. Теоретические и практические журналы других советских республик безусловно являются ценными и для работников БССР. Особенности законодательства в БССР, как союзной республики, особенности работы,—языка были главными причинами создания своего белорусского юридического журнала, мысль о котором возникла еще в 1924 и 25 году и осуществилась в 1927 году с появлением первого номера такого журнала.

Прежде всего необходимо отметить, что инициатор создания журнала НКЮ сделал его своим ведомственным органом, ставя однако цели, далеко выходящие из рамок ведомства. Это, конечно, является вполне правильным. *„Нам патрэбна дзелавая крытыка нашага законадаўства з боку судзьдзі, міліцыянэра, працоўніка выканкому, з боку кожнага працоўнага нашай Рэспублікі"*—говорилось в передовице первого номера и дальше: *„Аднальковае разуменьне законаў і яго ўжываньне паслужыць у справе ўмацненьня рэвалюцыйнай законнасьці і падымае працоўную пісьменнасьць на мясцох"*. Таковы задачи были поставлены перед первым юридическим журналом БССР и они для начала были достаточны. Номер первый вышел в соответствии с постановленными задачами. Кроме статей работников НКЮ мы видим в нем статьи работников земельных органов по земельным вопросам, постановления Особой Коллегии Высшего Контроля по земельным делам, страничку практика, статью профессора Ленца о деятельности белорусского кабинета по изучению преступности и преступника, раз'яснение Верховного Суда и т. д. Первый номер был началом к освещению многих отраслей Юстиции. Путь развития журнала был намечен правильно.

Номера 2-3 и 4-5 ужо заметно с'уживают размах первого номера, в этих номерах мы видим, что подавляющие места занимают статью работников центрального аппарата НКЮ, в нем очень слабо слышен голос низового работника юстиции и совсем не слышно голоса работников Милиции, Исполкомов, Наблюдательных Комиссий, Комиссий по борьбе с преступностью несовершеннолетних, Правовой Секции Инбелкульта, а они должны были притти с своими знаниями и практикой на помощь к журналу.

Последующие №№ 6—7 и 8 показали вполне отрицательную сторону дальнейшего жизненного пути журнала. Журнал оделся в мантию ведомства, регламентированные статьи, циркуляры, разбухшая официальная часть вытеснили из журнала все, что не исходит из НКЮ или это „все" поосто не пришло к журналу из других мест, где также

проводится наш закон, где разрешаются вопросы теории и практики.

Перед нами возник вопрос: кто же является творцом мысли в журнале? К великому сожалению, и этот факт подтверждает сугубую ведомственность этого журнала. Из 50 статей, помещенных за 10 м-цев, 35 принадлежат перу работников Центрального аппарата НКЮ. В нем нет участия низовых работников, нет статей с мест, нет вопросов с мест, нет дружной работы вокруг мурнала тех, кто является проводником нашей законности. Журнал вошел в скорлупу и к нему не чувствуется того интереса, который обещал быть после первого номера. Цель, поставленная в передовой первого номера, не выполнена. У журнала нет бодрого взгляда вперед, как было в первом номере, журнал выглядывает бюллетенем НКЮ.

Можно-ли отсюда сделать вывод, что такой журнал, каким мы его видим, в последнее время является двигателем мысли и помощником работнику суда, Прокуратуры, Исполкома, Милиции и т. д. Конечно, нет. Для БССР необходим и крайне необходим юридический журнал, охватывающий все вопросы нашего права и практики применения советского закона. У нас нет сил и возможности на сегодняшний день выпустить ряд отдельных журналов по отраслям права и практики применения советского закона. Нам нужен один общий журнал. Те, кто работает над вопросами права, те, кто проводит закон в жизнь, должны быть первыми участниками в оживлении первого юридического журнала в БССР. По нашему мнению, в нем должны работать следующие органы: НКЮ, Верхсуд, Правовая Секция Инбелкульта, Особая Коллегия Высшего Контроля по земельный делам, Арбитражная Комиссия, Главный Дисциплинарный Суд, Кабинет по изучению преступника и преступности Правхоза БГУ, Кабинет судебно-медицинской экспертизы Наркомздрава, Управление местами заключения и Главмилиция НКВД, Комиссия по борьбе с преступностью несовершеннолетних при Наркомпросе, Секция моральной статистики ЦСУ и соответствующие низовые ячейки на местах. В соответствии с этим будет полная возможность снять ведомственную мантию с журнала и сделать его общим юридичесским журналом для БССР. Это даст возможность оживить первый в Белоруссии Юридический журнал, расширить его рамки, сделать интересным для более широкого круга читателей и завязать с ними более тесную связь.

*О. Конокотин*
*І. Зыбко.*

---

**Адказны рэдактар** *М. Галадзед*

**Члены рэдколегіі** *А. Сянькевіч*, *Рыжоў*, *Гоўзман*, *А. Александровіч*



## АД РЭДАКЦЫІ:

У часопісі „Бальшавік Беларусі“ № 9 у артыкул М. Абрамчука—„На парозе напружанае працы“—па тэхнічнаму недагляду дапушчаны наступныя памылкі. На старонцы 5 надрукавана: „Замест узмацненьня працы па социялістычнаму будаўніцтву па ўзмацненьню абароназдольнасьці СССР, перамозе цяжкасьцяй, замест адзіьства шэрагаў партыі,—опозыцыя і г. д.

Опозыцыя скарыстоўвае цяжкасьці социялістычнага будаўніцтва настроі і незадаваленьне замедленым тэмпам гаспадарчага будаўніцтва...

Трэба чытаць.

Замест пашырэньня працы па социялістычнаму будаўніцтву, па ўзмацненьню абароназдольнасьці СССР, перамогі цяжкасьцяй, замест узмацненьня адзінства шэрагаў партыі—опозыцыя скарыстоўвае цяжкасьці социялістычнага будаўніцтва, настроі і нездаваль неньне замаруджаным тэмпам гаспадарчага будаўніцтва, цяжкасьці міжнароднага становішча, пагрозы вайны супроць СССР, частковага паражэньня кітайскае рэвалюцыі, якая пераходзіць у новы больш высокі этап свайго разьвіцьця—вядзе пасіленую фракцыйную дэзорганізатарскую антыленінскую работу.